• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1000 рублёў

21 верасня 1996 г. субота, № 232 (23035)

# ЗВЯЗДА



*ВАКОЛ ЧУТАК*

## ЗНОЎ НАС ПАЛОХАЮЦЬ ЯДЗЕРНЫМ АПАКАЛІПСІСАМ...

**У апошнія дні і тыдні зноў распаўсюдзіліся недакладныя «звесткі» аб тым, што ўсім нам сур'ёзна пагражаюць тыя ж Чарнобыльская і Ігналінская АЭС. Па тлумачэнні мы звярнуліся да спецыялістаў аддзела аналізу экстрэмальна высокага забруджвання Рэспубліканскага цэнтра радыяцыйнага кантролю і маніторынгу прыроднага асяроддзя.**

Яшчэ 27 жніўня было атрымана паведамленне, што на Ігналінскай АЭС спынены ядзерны рэактар. Прычына — свішч на кантуры калектара прымусовай цыркуляцыі. Гэта значыць, што была парушана сістэма паразабеспячэння. Усё было ў цэлым хутка ліквідавана, тым не менш, 10 верасня ў 6.20 раніцы першы энергаблок АЭС быў пастаўлены на планавы рамонт. Вось і ўсе «жахі».

Калі б штосьці-небудзь сур'ёзнае адбылося там у апошнія дні, то новая сістэма кантролю радыяцыйнай абстаноўкі вакол Ігналінскай АЭС пад назвай «Гама-1», якая нядаўна пачала дзейнічаць у Беларусі, адразу перадала б у Мінск інфармацыю аб павышэнні радыяцыйнага фону. Аднак у гэтым плане на сённяшні дзень усё нармальна.

Яшчэ адно «страшнае паведамленне» было днямі перададзена па маскоўскім НТБ аб буйных непаладках на Чарнобыльскай АЭС. А што на самай справе?

Размова ідзе ўсё аб тых жа праблемах з укрыццём рэактара 4-га блока — саркафагам. Але ж гэтыя пытанні даўно ні для кога не сакрэт, аб іх ведаюць ва ўсім свеце.

Пра што гавораць канкрэтныя даныя апошніх дзён? Менавіта пра тое, што беларускія пасты радыяцыйнага кантролю ў Гомельскай вобласці ніякага павелічэння радыяцыйнага фону не зафіксавалі. Мінскія спецыялісты звязаліся з органамі Грамадзянскай абароны Украіны. Аператыўны дзяжурны гэтай службы праінфармаваў: ніякіх трывожных паведамленняў з Чарнобыльскай АЭС з гэтай нагоды не было.

**Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

## Гарачая вада з'явіцца да 1 кастрычніка. З ацяпленнем прыйдзецца пачакаць

**Як паведамілі «Звяздзе» ў Міністэрстве жыллёва-камунальнай гаспадаркі, не пазней як 1 кастрычніка ва ўсіх рэгіёнах Беларусі з'явіцца гарачая вада.**

Што да ацяплення, тут перспектыва больш аддаленая: яно будзе ўключана па рашэнню мясцовых выканкомаў у выпадку, калі на працягу пяці сутак запар сярэднясутачная тэмпература паветра не будзе перавышаць 8°С. Гаворка, такім чынам, хутчэй за ўсё ідзе толькі аб другой палове кастрычніка-пачатку лістапада.

Між тым, канчатковага рашэння аб тэмпературным рэжыме ў ацяпляльным сезоне 1996/1997 гг. пакуль не прынята, але не выключана, што з-за дэфіцыту паліўных рэсурсаў сёлета ў параўнанні з мінулым годам ён будзе крыху зменшаны. Дырэчы, варта нагадаць, што летась тэмпература ў кватэрах жылых дамоў не павінна была апускацца ніжэй за 18°С, а тэмпература ў школах, бальніцах і дзіцячых садках — ніжэй за 20°С.

**Сяргей ГРЫБ.**

## АМАЛЬ ТРЭЦЬ ПРАДУКЦЫІ БЕЛАРУСКАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ ВЫРАБЛЯЕЦЦА НА НЕДЗЯРЖАЎНЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАХ

У студзені—жніўні 1996 года на долю прадпрыемстваў дзяржаўнай формы ўласнасці, якія ёсць у Беларусі, прыпадала 68,3 працэнта агульнага аб'ёму вытворчасці прамысловай прадукцыі, на долю ж недзяржаўных — 31,7 працэнта. Такім чынам, за лічань-жнівень доля прадпрыемстваў недзяржаўных формаў уласнасці ў агульным аб'ёме прамысловай вытворчасці павялічылася на 2,2 працэнта. Аб'ём вытворчасці ў супастаўных цэнах да ўзроўню адпаведнага перыяду мінулага года на дзяржаўных прадпрыемствах склаў 102,1 працэнта, на недзяржаўных — 104,1. Паводле даных за першую палову 1996 года, прадастаўленых БелаПАН у Міністэрстве статыстыкі і аналізу рэспублікі, з 1032 тысяч чалавек, занятых у беларускай прамысловасці, 684 тысячы працавалі на прадпрыемствах дзяржаўнай формы ўласнасці.

**Сяргей ЛІТВІН, Ірына САЗАНОВІЧ, БелаПАН.**



**А што вы робіце ў суботу вечарам?..** Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## ПЕРШЫ КРОК ДА ЗМЯНШЭННЯ ПАЛІТЫЧНАЙ НАПРУЖАНАСЦІ

**На ўчарашнім пленарным пасяджэнні Вярхоўнага Савета нарэшце быў прыняты дакумент, размова пра які вядзецца ў парламенце ўжо не адзін дзень. Ён заклікаў разрадзіць напружаную палітычную сітуацыю ў краіне, якая ўтварылася на аснове розных падыходаў дзвюх галін улады да прапанаванага рэферэндуму па праекту новай рэдакцыі Канстытуцыі.**

Гэты зварот, які першапачаткова на разгляд дэпутатаў прапанавалі фракцыі камуністаў і аграрыяў, быў падтрыманы астатнімі дэпутацкімі аб'яднаннямі, за выключэннем фракцыі «Згода». Дэпутаты, якія прадстаўляюць у Вярхоўным Савеце інтарэсы Прэзідэнта, прапанавалі свой праект звароту, які кардынальна адрозніваўся ад першага. Аднак іх ініцыятыва не была падтрымана большасцю. Такім чынам, дакумент утрымлівае тры пункты, згодна з якімі, па-першае, Прэзідэнту Аляксандру Лукашэнку прапануецца адклікаць праект змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю, якія выносяцца на ўсенароднае абмеркаванне: па-другое, дэпутатам, якія вынеслі альтэрнатыўны праект, адклікаць сваю прапанову: па-трэцяе, стварыць пагадняльную камісію з саставу прадстаўнікоў абодвух бакоў для абмеркавання змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю. Мяркуецца, што на рэферэндум будуць вынесены толькі тыя папраўкі, адносна якіх члены камісіі не знойдуць кансенсусу.

Праўда, учора дэпутаты прыйшлі да высновы аб неабходнасці папраўкі першы пункт з мэтай яго змякчэння, паколькі ў ім утрымлівацца зварот да Прэзідэнта, і выклалі яго ў рэдакцыі: «прапанаваць разгледзець магчымасць адклікання». Прыхільнікамі такой папраўкі сталі дэпутаты Лазавік, Лябедзька, Калякін. На гэтым тэма рэферэндуму была часова закрыта. Хіба толькі сп. Ганчар паведаміў, што міністру фінансаў, які нядаўна трымаў справаздачу ў парламенце з-за адсутнасці фінансавання патрэб Цэнтрвыбаркома, афіцыйна вынесена папярэджанне. Старшыня Цэнтральнай камісіі па выбарах і правядзенні рэферэндумаў таксама сказаў, што атрымаў ліст кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Міхаіла Мясніковіча, які адрасаваны прэзідэнцкай «вертыкалі». У ім, у прыватнасці, утрымліваецца загад аб правядзенні падрыхтоўчых мерапрыемстваў да адначасовага правядзення выбараў у мясцовыя Саветы, давыбараў у Вярхоўны Савет і рэферэндуму «ў межах заканадаўства». Гэта сведчыць аб тым, што разам з Вярхоўным Саветам крок да згоды і вяртання ў рэчышча законнасці зрабіла і выканаўчая ўлада.

Пасля дэпутаты перайшлі непасрэдна да заканадаўчай дзейнасці: на абмеркаванне быў вынесены законапраект "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон "Аб Нацыянальным банку Рэспублікі Беларусь". Як зазначыў першы намеснік старшыні Нацбанка Мікалай Корбут, неабходнасць унясення паправак выклікана пастаяннымі змяненнямі ў банкаўскай дзейнасці, таму некаторыя артыкулы закона ўжо не адпавядаюць сённяшняй сітуацыі, не стасуюцца з іншымі заканадаўчымі актамі, якія рэгулююць фінансавую сферу.

Акрамя таго, быў зменены графік работы дэпутатаў, паколькі той, па якім працаваў парламент на бягучым тыдні, падвергся моцнай крытыцы з боку саміх парламентарыяў. Такім чынам, пачынаючы з 24 верасня і да 1 лістапада будуць праводзіцца толькі ранішнія і дзённыя пленарныя пасяджэнні, астатні ж час прызначаны для работы ў камісіях і фракцыях. Дарэчы, кожны панядзелак, а таксама першы тыдзень кастрычніка дэпутаты правядуць у сваіх выбарчых акругах.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## ПРЭЗІДЭНТ ПАПРАСІЎ ПЕНСІЯНЕРКУ НЕ ПЕРАЛІЧВАЦЬ СРОДКІ НА РЭФЕРЭНДУМ

**«Сардэчны дзякуй Вам за словы ўдзячнасці, выказаныя ў мой адрас і ў падтрымку рэферэндуму, ініцыяванага Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь. Я яшчэ раз пераканаўся, што такія ж погляды падзяляе большасць людзей».**

З гэтымі словамі кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка звярнуўся ў тэлеграме, накіраванай Амаліі Іванаўне Сафронавай, пенсіянерцы, жыхарцы пасёлка Шарэйкі Касцюковіцкага раёна. Гэтымі днямі яна даслала яму пісьмо з просьбай паведаміць нумар рахунку, на які хацела б пералічыць адзін мільён рублёў у Фонд падтрымкі Прэзідэнта краіны і рэферэндуму. «Што датычыць мяне, — напісала Амалія Іванаўна, — то я не жабрачка, але і капіталаў не нажыла, а Прэзідэнту свайму дапамагу».

У сваім пасланні Аляксандр Лукашэнка сказаў, што яго хвалюе не жаданне аказаць матэрыяльную падтрымку арганізацыі і правядзенню рэферэндуму, але пералічваць сродкі няма неабходнасці. «Ёсць шмат больш заможных людзей, якія дапамогуць у фінансаванні гэтага важнага дзяржаўнага мерапрыемства», — адказаў Прэзідэнт краіны пенсіянерцы Амаліі Іванаўне Сафронавай.

**БЕЛТА.**

## У ПАРЛАМЕНЦЕ ЎШАНОЎВАЛІ ІНВАЛІДАЎ-СПАРТСМЕНАЎ

**Беларускія інваліды-спартсмены, якія пасяхова ўдзельнічалі ў дзесятых летніх Паралімпійскіх гульнях у Атланце, 20 верасня былі прыняты ў Прэзідыуме Вярхоўнага Савета.**

«Мы глыбока разумеем значнасць той вялікай справы, з якой вы цудоўна справіліся», — сказаў на сустрэчы кіраўнік парламента Сямён Шарэцкі. — А гэта не менш важна і адказна, чым прымаць заканадаўчыя дзяржаўныя акты. Вы на Амерыканскім кантыненце прадставілі беларускі народ і самі бліскучымі поспехамі ярка прадэманстравалі яго патэнцыяльныя магчымасці».

Нагадаем, што прадстаўнікі нашай рэспублікі заваявалі 13 медалёў рознай вартасці, занялі 28-е месца сярод 115 краін свету. Прычым наша каманда інвалідаў у такіх спаборніцтвах удзельнічала ўпершыню.

Спартсмены, якія выступілі на сустрэчы, выказалі падзяку кіраўнікам парламента за падтрымку і ўвагу да людзей, для якіх спорт з'яўляецца моцным стымулам свайго жыццесцвярджэння, умацавання маральных пазіцый, дастойных алімпійскіх ідэалаў.

Чэмпіёны і прызёры Гульняў, а таксама іх трэнеры былі ўзнагароджаны Ганаровымі граматамі Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Вячаслаў ДУТАЎ, БЕЛТА.**

## ПАСТАНОВА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Аб Звароце Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, якія ініцыіравалі разгляд на рэспубліканскім рэферэндуме змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 года**

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Прыняць Зварот Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, якія ініцыіравалі разгляд на рэспубліканскім рэферэндуме змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 года.

2. Апублікаваць гэты Зварот у газетах «Звязда» і «Народная газета».

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШАРЭЦКІ**

20 верасня 1996 г., г. Мінск.
№ 603-XIII

## ЗВАРОТ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ДА ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ І ДЭПУТАТАЎ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ, ЯКІЯ ІНІЦЫІРАВАЛІ РАЗГЛЯД НА РЭСПУБЛІКАНСКІМ РЭФЕРЭНДУМЕ ЗМЯНЕННЯЎ І ДАПАЎНЕННЯЎ У КАНСТЫТУЦЫЮ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ 1994 ГОДА

**Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, усведамляючы адказнасць за цяперашняе і будучае Беларусі, імкнучыся забяспечыць грамадзянскую згоду, непарушныя асновы народаўладдзя і прававой дзяржавы, звяртаецца да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, якія ініцыіравалі разгляд на рэспубліканскім рэферэндуме змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 года, з прапановамі:**

1. Разгледзець магчымасць адклікання сваіх ініцыятыў па вынясенню на рэспубліканскі рэферэндум змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 года.

2. Стварыць пасля адклікання прапаноў аб змяненнях і дапаўненнях у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 года Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь і Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь пагадняльную Канстытуцыйную камісію на парытэтных пачатках, якая выпрацоўвае, абагульняе і ўносіць прапановы аб змяненнях і дапаўненнях у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь 1994 года.

3. Тэкст, складзены пагадняльнай Канстытуцыйнай камісіяй, узгадняецца з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь і Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь і выносіцца на ўсенароднае абмеркаванне.

Змяненні і дапаўненні ў Канстытуцыю з улікам заўваг і прапаноў, паступіўшых у пагадняльную Канстытуцыйную камісію пасля ўсенароднага абмеркавання, разглядаюцца і прымаюцца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь, а змяненні і дапаўненні, па якіх не будзе дасягнута згода бакоў, выносяцца на рэспубліканскі рэферэндум.

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь заяўляе, што пры дасягненні згоды бакоў па пунктах 1—3 гэтага Звароту перагледзіць Пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 6 верасня 1996 года «Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь і мерах па яго забеспячэнню».

**Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь**
20 верасня 1996 года.

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 373

**Аб зацвярджэнні Палажэння аб Нацыянальным архіўным фондзе Рэспублікі Беларусь, а таксама сеткі дзяржаўных архіўных устаноў Рэспублікі Беларусь**

У мэтах удасканалення архіўнай справы, кіравання Нацыянальным архіўным фондам Рэспублікі Беларусь, умацавання ўзаемадзеяння дзяржаўных органаў па забеспячэнню фарміравання, захавання і выкарыстання архіўных фондаў і дакументаў **пастанаўляю:**

1. Зацвердзіць Палажэнне аб Нацыянальным архіўным фондзе Рэспублікі Беларусь і сетку дзяржаўных архіўных устаноў Рэспублікі Беларусь.

2. Устанавіць, што рэспубліканскія дзяржаўныя архіўныя ўстановы фінансуюцца за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту, абласныя і занальныя — за кошт сродкаў мясцовых бюджэтаў абласцей.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**
20 верасня 1996 г., г.Мінск.

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ПАВІНШАВАЎ ЮРЫЯ ЛУЖКОВА З ЮБІЛЕЕМ

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка накіраваў віншавальнае пісьмо мэру Масквы Юрыю Лужкову ў сувязі з 60-годдзем з дня яго нараджэння. «Мяне вельмі радуе, — гаворыцца ў пасланні, — што ў гэты няпросты перыяд урад Масквы, з якой у Беларусі склаліся традыцыйныя дружалюбныя сувязі, мае мудрага і аўтарытэтнага кіраўніка, сапраўднага прыхільніка збліжэння нашых брацкіх народаў».

Кіраўнік нашай дзяржавы даў у пісьме высокую ацэнку ўкладу Юрыя Лужкова ў развіццё беларуска-расійскіх адносінаў, актывізацыю супрацоўніцтва прадпрыемстваў і ўстаноў цудоўнага горада Масквы з беларускімі партнёрамі. Аляксандр Лукашэнка пажадаў яму далейшых поспехаў у дзейнасці на пасадзе кіраўніка ўрада расійскай сталіцы, моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту яму і яго блізкім.

**БЕЛТА.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 372 АБ УСТАНАЎЛЕННІ СВЯТА — ДНЯ МЫТНІКА

Устанавіць у Рэспубліцы Беларусь свята — Дзень мытніка, які не з'яўляецца выхадным днём, і штогод адзначаць яго 20 верасня.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**
20 верасня 1996 г., г.Мінск.

## ВАЕННЫЯ ВЕДАМСТВЫ БЕЛАРУСІ І КІТАЯ ПАДПІШУЦЬ ДВУХБАКОВАЕ ПАГАДНЕННЕ

**Распачаўся візіт дэлегацыі Міністэрства абароны Беларусі ў Кітайскую Народную Рэспубліку.**

Як стала вядома карэспандэнту «Звязды», дэлегацыя Беларускага ваеннага ведамства на чале з міністрам абароны генерал-лейтэнантам Леанідам Мальцавым у чацвер вечарам поездам адправілася ў Пекін. У прэс-службе Міністэрства абароны паведамілі, што падчас візіту дэлегацыя наведае вайсковыя часці і ваенныя навучальныя ўстановы КНР, пройдуць перамовы паміж міністрамі абароны дзвюх краін, і ў завяршэнне павінна быць падпісана пагадненне аб двухбаковым супрацоўніцтве.

**Сяргей ПРОТАС.**

## І. ЦІЦЯНКОЎ І Л. СІНІЦЫН НА ДЫПЛАМАТЫЧНУЮ СЛУЖБУ ПАКУЛЬ НЕ ПЕРАХОДЗЯЦЬ

**Адбыўся чарговы брыфінг для беларускіх і замежных журналістаў у МЗС краіны. Яго правёў міністр Уладзімір СЯНЬКО.**

Ён засяродзіў увагу прысутных на выніках знешнепалітычнай дзейнасці Беларусі за апошні час, расказаў аб чакаемых кантактах і перагаворах. У гэтым кантэксце міністр як важную падзею на першы план паставіў наведванне з рабочым візітам прэм'ер-міністрам Міхаілам Чыгіром Масквы, дзе ён меў даволі працяглую гутарку з прэм'ерам Віктарам Чарнамырдзіным. Гаворка ішла аб стварэнні механізмаў разлікаў. Бо, як вядома, няўхільна расце наша запазычанасць за расійскую нафту і газ.

А ў бліжэйшую суботу Міхаіл Чыгір правядзе сустрэчу ў Гродне са сваім польскім калегам. Абодва прэм'еры спачатку адкрыюць невялікую беларускую школу ў Беластоцкім ваяводстве, потым, пасля перагавораў, польскую школу ў Гродне. Таксама яны наведаюць пераходы на граніцах, пазнаёмяцца з іх праблемамі.

Сярод важных маючых адбыцца знешнепалітычных акцый Уладзімір Сянько назваў удзел беларускай дэлегацыі ў 51-й чарговай сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, якая ўжо пачала сваю работу 17 верасня. Наша дэлегацыя падключыцца да яе 24 верасня. Гэты дзень, па словах міністра, абяцае быць цікавым — у Нью-Йорку будзе адкрыты для падпісання Дагавор аб забароне ядзерных выпрабаванняў.

Уладзімір Сянько з задавальненнем паведаміў, што пастаянны прадстаўнік Беларусі пры ААН Аляксандр Сычоў выбраны старшынёй Першага камітэта — вельмі важнага падраздзялення ў сістэме ААН, якое займаецца праблемамі раззбраення. Выбранне Сычова сведчыць аб росце аўтарытэту беларускай дыпламатыі.

Дэлегацыю ў Нью-Йорку чакае напружаная праца. Ужо запланаваны сустрэчы і перагаворы Уладзіміра Сянько з кіраўнікамі знешнепалітычных ведамстваў больш 15 краін — Расіі, ЗША, Кітая, Індыі і інш.

Міністр таксама расказаў аб выніках свайго афіцыйнага візіту ў Грэцыю. Ён, на думку міністра, стаў добрым крокам у плане развіцця беларуска-грэчаскіх адносінаў. У Афінах наша дэлегацыя перадала шэраг праектаў пагадненняў, якія датычацца эканамічных стасункаў. Яны былі ўспрыняты з вялікай цікавасцю. Аб жаданні Грэцыі з намі сябраваць і супрацоўнічаць сведчыць той факт, што ў бліжэйшы час у Мінску адкрыецца пасольства гэтай краіны.

На пытанне прадстаўніка «Звязды» аб тым, як успрымаюць і рэагуюць у свеце на абвастрэнне палітычнай барацьбы ў Беларусі вакол рэферэндуму, Уладзімір Сянько адзначыў, што палітычная барацьба прыцягвае ўвагу міжнароднага супольніцтва. Усе зацікаўлены, каб сітуацыя ў Беларусі развівалася нармальна, шляхам дэмакратычным, як у цывілізаваным грамадстве.

Афіцыйных выказванняў на гэту тэму не было і не можа быць, бо рэферэндум — самы дэмакратычны спосаб вырашэння пытанняў, які не выклікае сумненняў. Але абвастрэнне процістаяння галін улады выклікае пэўную заклапочанасць у свеце, адзначыў міністр.

Сярод адказаў міністра ўсеагульную цікавасць выклікала яго рэакцыя на пытанне аб верагодным пераходзе двух паплечнікаў Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі — Івана Ціцянкова і Леаніда Сініцына на дыпламатычную службу. Уладзімір Сянько выказаў здзіўленне падобнымі чуткамі. Ён прызнаўся, што пакуль ён не меў нават неафіцыйных звестак ці нейкіх крокаў і сігналаў у яго напрамку, якія б пацвярджалі інфармацыю аб новым папаўненні дыпкорпуса за кошт Ціцянкова і Сініцына.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

## У «БЕЛВЕСТА» З'ЯВІЛАСЯ МАГІЛЁЎСКАЯ ПРАПІСКА

**Днямі ў Магілёве адкрыўся фірменны магазін сумеснага беларуска-германскага прадпрыемства «Белвест». А гэта значыць, што магіляўчане, госці горада і жыхары вобласці змогуць там набыць модны і дыхтоўны абутак па адносна невысокай цане.**

На рахунку СП, якое, як вядома, базіруецца ў Віцебску, гэта ўжо дзевяты фірменны магазін. І ўсе яны, па словах генеральнага дырэктара СП «Белвест» Ларысы Кузняцовай, карыстаюцца ў пакупнікоў вялікай папулярнасцю. Прычын тут шмат. Гэта заўсёды багаты выбар прадукцыі, сучасны еўрапейскі дызайн магазіна, мінімальная нацэнка на тавар і, безумоўна, высокая культура абслугоўвання.

Ларыса Ільінічна падкрэсліла, што «Белвест» і ў далейшым будзе арганізоўваць фірменны гандаль, які выгадны як пакупнікам, так і прадпрыемству, паколькі грошы за рэалізаваную прадукцыю імгненна трапляюць на рахунак беларуска-германскага СП і працуюць па-новаму.




Ну, а аб тым, што абутак віцебскіх майстроў не будзе залежвацца на гандлёвых паліцах, гаворыць нават той факт, што ў дзень адкрыцця магазіна ў Магілёве жадаючых купіць абноўку сабралася столькі, што не хапіла светлавога дня, каб абслужыць кожнага: народ жадае абувацца ў «Белвесце».

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

## ЛЁС ПРАДПРЫЕМСТВА ВЫРАШЫЦЦА ПАСЛЯ СУСТРЭЧЫ З ЗАМЕЖНЫМІ ПАРТНЁРАМІ

**Рэчыцкія суднабудаўнікі звязваюць апошнія надзеі па нармалізацыі работы прадпрыемства з сустрэчай яго дырэктара з галандскімі партнёрамі.**

Складаная сітуацыя на Рэчыцкім суднабудаўніча-суднарамонтным заводзе ўзнікла з пачатку 1995 года. З моманту стабілізацыі курса долара прадпрыемства з прыбытковага ператварылася ў стратнае. Галандскія партнёры доўгі час не рашаліся размясціць свой заказ на выкананне вялікагрузнага судна. Першы заказ быў выкананы ў лютым мінулага года, другі — у жніўні бягучага. Як паведаміў дырэктар завода Віктар Кавалёў, прэтэнзій да якасці ў прадстаўнікоў галандскай фірмы няма. Тым не менш, замежныя партнёры баяцца інвесціраваць нашу вытворчасць. Разлічваць на крэдыты айчынных банкаў не прыходзіцца — пад вялізныя працэнты прадпрыемства іх узяць не можа, а пад прымальныя фінансавыя ўстановы не даюць. У выніку завод у чарговы раз не дзейнічае ўжо больш месяца, адпаведна каля трохсот карабелаў знаходзяцца ў вымушаным неаплатным водпуску, даўгі прадпрыемства па крэдытах растуць. Пасля паездкі ў Галандыю будзе вырашацца пытанне, быць ці не быць заводу.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## ЗАПІСАЛАСЯ ЖАНЧЫНА Ў РЭКЕЦІРЫ

**Некалькі дзён наводзіла страх невядомая на загадчыцу аднаго з магазінаў Добруша: маўляў «гані» дзвесце «баксаў», інакш...**

Тая прасілася: за што, у самой грошай не хапае. Аднак невядомая пагражала страшнымі тэрарыстычнымі дзеяннямі. І тады загадчыца магазіна пайшла ў міліцыю з заявай. Там яе як мае быць пракансультавалі. І вось фінал.

У час перадачы грошай рэкеціра, як гавораць у падобных выпадках, «павязалі». Свае фінансавыя справы, аказваецца, хацела паправіць нідзе не працуючая саракагадовая гамяльчанка.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## ТАКІЯ ЗЛЫЯ ПЕНСІЯНЕРЫ

У горадзе Рэчыца два з іх, нягледзячы на свой паважаны ўзрост (кожнаму ледзь не па семдзесят гадоў), так люта ненавідзелі адзін аднаго, што ўпарта шукалі прычыны для помсты. І вось а палове дзевятай гадзіны В. К. ехаў на сваіх «Жыгулях» па вуліцы. А яе пераходзіў яго «вораг» А. К. І тады В. К. ударыў парушальніка дарожнага руху машынай, збіўшы яго на асфальт. А каб ён яшчэ і ў далейшым не псаваў яму настрой, спыніў аўто, абухом сякеры праламаў гаротніку чэрап і лязом ударыў па перадплеччу. А. К. у цяжкім стане быў дастаўлены ў бальніцу.

А ў другім выпадку пенсіянер-інвалід з Гомеля не паладзіў са сваім нідзе не працуючым сынам і загнаў яму нож у жывот. А пасля гэтага, падумаўшы хвіліны тры, тым жа нажом паласнуў і сябе па брушной поласці. Абодва зараз знаходзяцца на лячэнні.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

### *ФУТБОЛ. ЧЭМПІЯНАТ БЕЛАРУСІ*

## «ЛАКАМАТЫЎ-96» «РАЗДУШЫЎ» «ДЫНАМА-93»

Матчам сталічнай «Атакі-Аўры» і магілёўскага «Дняпра» ўчора завяршыўся 22-і тур VI чэмпіянату Беларусі па футболу ў вышэйшай лізе. Аб яго выніку будзе паведамлена ў наступным нумары, а напярэдадні былі згуляны сем матчаў. З развязкай у адносінах, хто стане чэмпіёнам, прыйдзецца пачакаць, паколькі лідэры ідуць крок у крок і разрыў паміж імі складае толькі адно ачко. Чарговыя свае матчы яны выйгралі. Прытым мінскія дынамаўцы зрабілі гэта больш чым упэўнена, забіўшы землякам-тарпедаўцам пяць мячоў, якія засталіся без адказу. Мазырскі МВКЦ дабіўся перамогі над гродзенскім «Нёманам» з больш сціплым лікам — 1:0.

Наогул, 22-і тур прынёс некалькі нечаканых вынікаў. Напрыклад, навапалацкі «Нафтан-Дэвон», які дома прайграе надзвычай рэдка, уступіў «Маладзечна» з лікам 2:3, а сталічнае «Дынама-93», таксама на сваім полі, было «раздушана» віцебскім «Лакаматывам-96». Аб гэтым красамоўна сведчыць лік 1:5.

Вось вынікі астатніх сустрэч.

Белшына—Дынама (Бр)— 4:0
Ведрыч—Тарпеда (Мг) — 2:0
Шахцёр—Абутнік — 4:0

**Турнірная табліца па 22-га тура**

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Дынама (Мн) | 22 | 18 | 3 | 1 | 62-15 | 57 |
| 2. МВКЦ | 22 | 18 | 2 | 2 | 50-14 | 56 |
| 3. Белшына | 22 | 15 | 2 | 5 | 54-26 | 47 |
| 4. Атака-Аўра | 19 | 12 | 4 | 3 | 25-17 | 39 |
| 5. Лакаматыў-96 | 22 | 10 | 8 | 4 | 34-16 | 38 |
| 6. Дынама-93 | 20 | 11 | 4 | 5 | 26-17 | 37 |
| 7. Нафтан-Дэвон | 21 | 11 | 3 | 7 | 36-34 | 36 |
| 8. Маладзечна | 22 | 9 | 5 | 8 | 37-27 | 32 |
| 9. Днепр | 21 | 7 | 4 | 10 | 22-25 | 25 |
| 10. Дынама (Бр) | 22 | 5 | 8 | 9 | 28-33 | 23 |
| 11. Шахцёр | 22 | 5 | 4 | 13 | 17-37 | 19 |
| 12. Нёман | 21 | 4 | 5 | 12 | 18-41 | 17 |
| 13. Тарпеда (Мн) | 21 | 4 | 5 | 12 | 18-45 | 17 |
| 14. Абутнік | 22 | 3 | 4 | 15 | 16-36 | 13 |
| 15. Тарпеда (Мг) | 22 | 3 | 4 | 15 | 19-55 | 13 |
| 16. Ведрыч | 22 | 3 | 3 | 16 | 12-38 | 12 |

23-і тур пройдзе 21—24 верасня. Матчы з удзелам лідэраў: «Дынама» (Мг)—»Дынама-93", «Нафтан»—МВКЦ.

### *XXXII ШАХМАТНАЯ АЛІМПІЯДА*

## МЫ ПАКУЛЬ У ДЗЕСЯТЦЫ

Ерэванская шахматная алімпіяда набірае абароты. Згуляны чацвёрты тур, які прынёс беларускім мужчынам чарговую перамогу з лікам 3:1 над камандай «Арменія-2». Выйгралі свае партыі Гельфанд, Аляксандраў і Шульман, а прайграў — Дыдышка. Пасля гэтага мужчынская каманда набрала 11 ачкоў і займала 10-е месца. А наперадзе зборныя Кітая, Расіі, Кубы, Англіі... Учора нашымі сапернікамі былі румыны. Значна слабей выступаюць жанчыны. У папярэдняй сустрэчы яны спатыкнуліся на камандзе Узбекістана, уступіўшы 0,5:2,5. Прайгралі паядынкі Заяц і Лагвілава, унічыю згуляла Сарокіна.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

*Віншую са святам дарагіх майму сэрцу сяброў, афіцэраў запасу Алега ТУРКОВА, Віктара ЗАВОДСКАГА, Дзмітрыя ЦАПЛЯЕВА, Сяргея ШУБІНА, Сяргея САФОНАВА, Віталія ШЧЭРБУ, Пятра ДАВІДОВІЧА. Асобна дзякую падпалкоўніку медыцынскай службы Казіміру ДРОБЫШУ. Шаноўныя мае сябры, мы разам шмат чаго перажылі, дзелячы радасць і смутак, але самае галоўнае — выжылі.* **Сяргей, г. Слуцк.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### У РАСІІ З'ЯВІЦЦА НОВЫ КІРАЎНІК. ЦІ НАДОЎГА?

Падрыхтаваны праекты яшчэ двух Указаў Прэзідэнта, звязаных з механізмам функцыянавання ўлады на час аперацыі Барыса Ельцына. Пра гэта паведаміла крыніца ў Крамлі. Па яе словах, у праектах дакументаў указаны не толькі дакладны дзень месяца, але нават гадзіна і хвіліна, з якіх прэм'ер прыступіць да часовага выканання абавязкаў. Пры гэтым мяркуецца выкарыстоўваць так званую «рэйганаўскую мадэль», калі прэзідэнт ЗША на час аперацыі перадаў часова свае паўнамоцтвы віцэ-прэзідэнту. Не выключана, што прэм'ер будзе выконваць абавязкі прэзідэнта ўсяго на працягу некалькіх гадзін.

Лідэр камуністаў Генадзь Зюганаў назваў абсалютна правільным рашэнне прэзідэнта на час маючай адбыцца аперацыі перадаць паўнамоцтвы, у тым ліку кантроль за ядзернай кнопкай, прэм'ер-міністру Чарнамырдзіну. Зюганаў адзначыў, што гэта рашэнне Ельцына поўнасцю адпавядае Канстытуцыі і іншага варыянта быць не магло. У той жа час лідэр камуністаў лічыць, што Расіі трэба рыхтавацца да новых прэзідэнцкіх выбараў. Учора на прэс-канферэнцыі ў Маскве Генадзь Зюганаў падкрэсліў, што цяжка хворага чалавека нельга выбіраць на кіруючую пасаду. На думку Зюганава, трэба прыняць новы закон, які абавяжа кіраўнікоў дзяржавы рэгулярна прадстаўляць інфармацыю пра стан свайго здароўя.

### АБМЕН ВАЕННАПАЛОННЫМІ ЧАСОВА СПЫНЕНЫ

Улады Чачэнскай Рэспублікі Ічкерыя часова спынілі абмен палоннымі з расійскім бокам у сувязі з адмовай Масквы вызваліць двух чачэнскіх журналістаў. Пра гэта заявіў журналістам у Грозным міністр інфармацыі Ічкерыі Удугаў. Журналістаў павінны былі выпусціць на волю ўчора, але расійскі бок заявіў, што пакуль не можа іх вызваліць. Сёння з Чачні павінен пачацца вывад расійскіх войскаў. У першую чаргу будуць выведзены часці Міністэрства абароны, якія не падпарадкоўваюцца камандаванню Паўночна-Каўказскай ваеннай акругі. Вывад войскаў павінен завяршыцца да сярэдзіны снежня.

### У ПЕРСІДСКІ ЗАЛІЎ ПРАЦЯГВАЮЦЬ ПРЫБЫВАЦЬ ВАЙСКОЎЦЫ ЗША

Злучаныя Штаты працягваюць нарошчваць сваю ваенную прысутнасць у Персідскім заліве. У бліжэйшы час у рэгіёне будзе размешчана больш за 30 тысяч амерыканскіх вайскоўцаў і 200 баявых самалётаў. У чацвер у Кувейт прыбыў перадавы атрад амерыканскіх войскаў з 200 чалавек. Усяго ў Кувейце па распараджэнню прэзідэнта ЗША Клінтана будуць размешчаны 500 вайскоўцаў. У воды Персідскага заліва ўвайшоў другі авіяносец «Інтэрпрайз». На яго борце 75 баявых самалётаў, якія будуць патруляваць забароненыя зоны ў паветранай прасторы Ірака.

**Паводле паведамленняў радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС».**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Якая краіна на Зямлі найлепшая па якасці жыцця? Канада, як лічыць ААН. Гэак жа думаюць... іншапланецяне, як запэўніваюць самі канадцы. Яны ўпэўнены ў тым, што менавіта да іх часцей за ўсё наведваюцца прышэльцы з космасу. Па паведамленнях сведак іх візітаў, толькі ў 1994—1995 гадах НЛА з'яўляліся ў небе Канады 372 разы. Асабліва касмічным гасцям, мяркуючы па ўсім спадабалася, прыглянулася правінцыя Брытанская Калумбія. Туды з 1989 года НЛА прыляталі, па падліках, 465 разоў.

**ІТАР-ТАСС.**

Людзі гатовы загінуць не толькі за метал, але нават за абпаленую гліну. Так, каля будынка раённай адміністрацыі саракагадовы жыхар горада Каменя-Кашырскага, грамадзянін К., пры вялікай колькасці народу абліў сябе бензінам і хацеў падпаліць. Супрацоўнікам міліцыі сілай удалося спыніць трагедыю. Няўдачлівы самазабойца пазней растлумачыў у райаддзеле міліцыі, што на гэты крок яго падштурхнула рашэнне суда аб канфіскацыі яго недабудаванага дома, якое ён лічыць несправядлівым.

**ЭКСТРА-ПРЭС.**

# БЕЛАРУСКІ РЭФЕРЭНДУМ: ПОГЛЯД З ПОЛЬШЧЫ

**У суседніх з намі дзяржавах з насцярогай і трывогай сочаць за падзеямі ў Беларусі. Натуральна, што там спрабуюць аналізаваць беларускую сітуацыю і прагназіраваць далейшае разгортванне падзей, паколькі любы буйны палітычны крызіс напрамую ўплывае на стабільнасць у рэгіёне і перспектывы эканамічнага супрацоўніцтва.**

У пачатку верасня варшаўскі Цэнтр усходніх даследаванняў (навуковы інстытут, які дзейнічае пры Міністэрстве эканамічнага супрацоўніцтва з замежжам) выдаў спецыяльны «Беларускі бюлетэнь» — часопіс, у якім падрабязна аналізуецца палітычная і эканамічная сітуацыя ў Беларусі. Шмат увагі ў ім удзелена праблеме рэферэндуму. Ніжэй змяшчаем (у перакладзе) урыўкі з аналітычнага агляду эксперта Цэнтра ўсходніх даследаванняў Эльжбеты Бэзюк.

Папярэдні рэферэндум — у маі 1995 г. — прынёс Прэзідэнту Беларусі неверагодны поспех, і перш за ўсё дазволіў абгрунтоўваць з дапамогай мандата грамадскага даверу любыя крокі — нават тыя, якія не адпавядаюць заканадаўству. Выкарыстоўваючы мінулы вопыт, Прэзідэнт рашыўся паўторна прымяніць той жа прыём, каб, як нам здаецца, зацвердзіць у законным парадку сваё права на мала чым абмежаванае праўленне.

Канчатковая мэта Прэзідэнта Лукашэнкі застаецца той жа: расшырэнне да максімальных межаў сваіх паўнамоцтваў і ўтрыманне папулярнасці на тым жа ўзроўні, на якім яна знаходзілася ў час прэзідэнцкіх выбараў. Станоўчы для Лукашэнкі вынік рэферэндуму дазволіў бы яму значна аслабіць палітычных сапернікаў, якія кансалідуюць сілы, і магчымасці якіх Прэзідэнт, падобна, пачаў высока ацэньваць.

... Варта звярнуць увагу на тое, што пытанне, якое датычыць зменаў Канстытуцыі, сфармулявана ў самым агульным плане, без канкрэтызацыі тых палажэнняў, якія мяркуе змяніць Прэзідэнт. Калі грамадства на рэферэндуме выкажацца за ўнясенне паправак у Асноўны закон, то гэта дасць Прэзідэнту магчымасць у законным парадку ўсталяваць сваю практычна неабмежаваную ўладу.

Можна меркаваць, што астатнія пытанні рэферэндуму ўяўляюць сабой класічны прыклад папулістычнай тэхнікі. Яны разлічаны на адназначны вынік грамадскай падтрымкі і павінны ўзмацніць эфект перамогі Лукашэнкі (зразумела, у тым выпадку, калі ўсё адбудзецца паводле яго планаў — а палітычная інтуіцыя рэдка падводзіць беларускага Прэзідэнта).

Пытанне наконт устанаўлення новай даты свята незалежнасці можна параўнаць з пытаннем наконт змены дзяржаўнай сімволікі, на якое станоўча адказалі грамадзяне Беларусі летась. Тут знамянальна тое, што беларусы ўсведамлялі тое, якія негатыўныя эканамічныя вынікі будзе мець працэс змены сімволікі.

Да пытання аб прыватнай уласнасці на зямлю, калі верыць вынікам сацыялагічных апытанняў, таксама адназначна ставіцца каля 80 працэнтаў жыхароў Беларусі, якія выступаюць супраць перадачы зямлі ў прыватныя рукі.

Да праблемы скасавання смяротнай кары Прэзідэнт звяртаецца першы раз. Магчыма, гэта звязана з неабходнасцю гарманізацыі беларускага заканадаўства з еўрапейскімі стандартамі. Гэтага патрабуе Савет Еўропы, — арганізацыя, да якой Беларусь усё яшчэ не належыць.

... Відавочна, што мэта рэферэндуму, які ініцыіраваў Прэзідэнт Лукашэнка, не абмяжоўваецца толькі пашырэннем кампетэнцыі кіраўніка дзяржавы. Не менш важным для Лукашэнкі з'яўляецца атрыманне чарговага мандата даверу, на які ён прывык абапірацца, а таксама народнай падтрымкі для ўсталявання ўлады «цвёрдай рукі». На фоне антыпрэзідэнцкіх акцый пратэсту, якія час ад часу паўтараюцца, растучай ролі апазіцыі, пагаршэння эканамічнай сітуацыі і трывожнага ахаладжэння адносінаў з Расіяй падтрымка з боку грамадства проста неабходна Лукашэнку.

Існуе вялікая верагоднасць таго, што ў сённяшніх умовах, пры 30-працэнтнай падтрымцы Аляксандра Лукашэнкі з боку выбаршчыкаў і ў становішчы, калі манапалізавана большасць сродкаў масавай інфармацыі, — Прэзідэнт здолее выйграць рэферэндум. Сярод двух магчымых варыянтаў развіцця падзей у Беларусі — устанаўлення надзвычайнага становішча або правядзення рэферэндуму — другі варыянт з'яўляецца больш мяккім, але не менш рызыкоўным і клопатным. Пашырэнне паўнамоцтваў кіраўніка дзяржавы прывядзе і да павелічэння яго адказнасці. Праўдападобна, што Лукашэнка ўсведамляе: спіс патэнцыяльных праціўнікаў, працідзеяннем якіх можна было б растлумачыць уласныя палітычныя памылкі, на сёння практычна вычарпаны.

**Пераклаў з польскай мовы Валянцін ЖДАНКО.**

РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...

# ...азеляніць кватэру

**СКАЖУ як кветавод-аматар са стажам: разводзіць хатнія расліны — не такая простая справа. Калі вашы веды аб культуры развядзення раслін абмяжоўваюцца думкай, што галоўнае — уторкнуць флянс у гаршчок з зямлёй, то лічыце, што вы нічога аб гэтым не ведаеце. Для кожнай расліны патрэбна стварыць спрыяльныя ўмовы. Адным неабходна тлустая зямля, другія толькі на камянях могуць жыць, трэцім гліністую глебу падавай. А колькі ўмоўнасцей пры паліве і з асвятленнем кожнай кветкі! Гэта не вышэйшая матэматыка, але калі хочаце, каб у вашай кватэры раслі кветкі, праштудзіруйце падручнікі.**

Існуе некалькі спосабаў набыцця флянсаў. Першы і самы просты — у сяброў і знаёмых. Другі, таксама не вельмі складаны, але не вельмі прыстойны з пункту гледжання этычных нормаў — адарваць лісцік-другі ў расліны, што знаходзіцца ў грамадскім месцы (на рабоце, у кінатэатры, іншых установах). Самы ж прыстойны спосаб, але ён патрабуе грашовых выдаткаў, — завітаць у кветкавы магазін. Выйсці адтуль з пустымі рукамі могуць хіба што мазахісты. Сёння ў сталічных магазінах кветак — незлічоная колькасць. Прычым экзатычных больш, чым звычайных, якія ў нас гаспадыні гадамі разводзілі. А магазін «Кветкі Беларусі», што па вуліцы Веры Харужай у сталіцы, варта перайменаваць, каб у зман пакупнікоў не ўводзіць. Трэба назваць яго «Кветкі Галандыі», бо акрамя раслін адтуль, на жаль, нічога не прапануецца. Банальную традэсканцыю, плюшч, аспарагус днём з агнём трэба шукаць. Прадаўцы адказваюць, што сёлета нейкія праблемы ў цяплічных гаспадарках. Не расце традэсканцыя. Мо, нявыгадна яе разводзіць, танная занадта? Месяц назад вазон са змарнелым аспарагусам за 18 тысяч можна было набыць. А вось галандскія расліны і асартыментам здзіўляюць, і прыгажосцю, ды і цаной таксама. З-за мяжы нам усё больш дэкаратыўныя дрэвы ды кусты прывозяць. Пальмы розных памераў і каштуюць адпаведна: ад 52 тысяч рублёў да 200. Кампазіцыі з іх — ад 675 тысяч. Розныя папаратнікавыя расліны каштуюць дзесьці 45—65 тысяч рублёў. Кусцік міні-ружы — таксама 65. За кактус, вялізны, нібы дрэва, аж 370 тысяч трэба вылажыць. Чым расліна большая, тым вышэйшая цана. Ды што там казаць, верхняй мяжы няма. Прычым, хоць расліны прадаюцца адразу ў гаршку, яго часцей за ўсё трэба мяняць. У пластыкавыя гаршкі спецыялісты высаджваць кветкі не раяць. Лепш у керамічныя. Хаця асартымент гэтага тавару нашы магазіны прапануюць бедны. Была мая сяброўка неяк у Іспаніі. Не ўтрымалася, прывезла ўсё ж адтуль пасудзіну. А ў нас глядзіш на паліцы магазінаў і не затрымліваецца вока ні на чым. Рэдка калі штосьці прыгожае знойдзецца. Кактусніцы, напрыклад, гадамі адной формы выпускаюць. Быццам бы складана прыдумаць гаршчок. Тым не менш, каштуе сярэдні па велічыні кветкавы гаршчок 40 тысяч рублёў. Большы — 60—70 тысяч. Вялізны — усе 120. Маленькія керамічныя кактусніцы каштуюць 13—19 тысяч. Пластыкавыя гаршкі абыдуцца танней дзесьці напалову, але асабіста я толькі б кашпо купіла, каб не прыйшлося самой падвеску рабіць. Глебу для раслін нескладана знайсці, але можна і яе ў магазіне набыць. Праўда, толькі ў асенне-зімовы сезон такі тавар прадаецца. Ну, а прыхільнікам штучных раслін трэба на Камароўку ды стадыён «Дынама» завітаць. Там усякія цуды ёсць. Хоць за 100 тысяч, хоць за 20. Затое паліваць не трэба, клапаціцца аб іх. Ды і цвітуць такія расліны круглы год.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

ШТО ПА ЧЫМ?



# ПРЫГАЖОСЦЬ НЕ АД ПРЫРОДЫ

**СПАДЗЯЮСЯ, што ў жыцці кожнай жанчыны валасы адыгрываюць не апошнюю ролю. А да паслуг цырульніка ёй проста па сваёй прыродзе неабходна звяртацца. Колькі часу вы праводзіце ў цырульні перад спатканнем з каханым? Прычоска, макіяж, манікюр... — тут гадзінай не абмяжуешся. А яшчэ валасы — гэта сапраўдны матэрыял і яны могуць паслужыць падставай для бурнай фантазіі цырульніка. Тут вам прыйдзецца толькі назіраць, як ён чаруе над вашай прычоскай. Але жанчына заўсёды павінна ведаць межы свайго свавольства. Для многіх гэтыя межы — грашовыя. Таму мы прапануем вам прэйскурант цэн на паслугі, якія аказваюць звычайныя і «незвычайныя» цырульні горада Мінска.**

Такім чынам, у самай звычайнай цырульні **цана на стрыжку** з укладкай вагаецца ад 27 да 60 тысяч. А залежыць яна ад даўжыні вашых валасоў і ад намаганняў цырульніка ў дасягненні канчатковага выніку. У буйных салонах, такіх як «Мара», «Ала», «ЛяБэль», «Галіна», цана будзе значна вышэйшая, ад 70 да 200 тысяч. Майстры экстракласа дапамогуць знайсці той варыянт прычоскі, які вам найбольш адпавядае.

**Цана завіўкі**, ці, па-народнаму кажучы, «хіміі», вар'іруецца ад 60 да 127 тысяч у звычайнай цырульні і ад 120 да 300 — у салонах.

Калі ў вас ёсць жаданне **пафарбаваць валасы,** то для вас наступная інфармацыя.

Сакрэт кошту афарбоўкі знаходзіцца ў тым, якую фарбу вы выкарыстоўваеце і колькі яна каштуе. Прыміце да ведама, што фарба серыі «Полі», такая як «Полі Калор», «Полі Блэўд» і «Полі Дайэдэм» каштуе ад 18,5 да 135 тысяч.

Фарба фірмы «Л'Арэаль Парыж», а менавіта «Імедыя Экселанс», «Рэсіталь Перфаманс», «Бландысім», «Эклер Клер» і «Касцінг» каштуе ў сярэднім ад 95 да 177 тысяч.

Фарба фірмы «Лонда» каштуе ад 41 да 85 тысяч. Афарбоўка валасоў у светлыя колеры (напрыклад, у салоне «Мара») каштуе ад 48 тысяч і вышэй з выкарыстаннем матэрыялаў цырульніка.

Пры няўдалай спробе афарбоўкі вашы валасы трэба падлячыць. А гэта абыдзецца вам прыкладна ў 60 тысяч.

Не чакайце, пакуль сама прырода паклапоціцца аб вас, смела накіроўвайцеся ў цырульню. А каб вы былі больш упэўненымі, нагадаем вам параду Арланда Піто, вядомага стыліста па валасах: «Рызыкуй, спрабуй рабіць разнастайныя рэчы з валасамі. Гэта толькі валасы, і калі ты іх адрэжаш — яны вырастуць зноў».

**Непрыгожых жанчын не бывае.** Яны як кветкі: кожная прыгожая па-свойму. Але існуюць такія людзі, якія зробяць вас найпрыгажэйшай. Хто гэтыя чараўнікі? Касметолагі.

Самыя дробныя праблемы са знешнім выглядам адразу перарастаюць у комплексы. Яны ў сваю чаргу проста атручаюць нармальнае жыццё. Каб пазбавіцца гэтага цяжару, звярніцеся да касметолага і вы не пашкадуеце.

А наша місія маленькая: прадставіць вам **прэйскурант цэн** на касметычныя паслугі. Але вы павінны разумець, што цэны гэтыя агульныя. Толькі вопытнае вока спецыяліста - касметолага зможа ацаніць усю тую работу, якой патрабуе ваша скура. Цэны, што вы пабачыце ніжэй, будуць выступаць для вас своеасаблівым компасам у нетрах касметалогіі.

**Інстытут прыгажосці** прапануе сваім кліентам шэраг паслуг. Сярод іх: чыстка скуры твару — 70 тысяч рублёў, разнастайныя маскі, абавязковыя пасля чысткі, — ад 35 тысяч да 45, масаж твару — каля 80 тысяч рублёў, а салярый, каб надаць скуры твару прыемны колер — 20 тысяч за адзін сеанс.

Калі ж у вас ёсць нейкія пытанні (вы не ведаеце тып вашай скуры ці якія крэмы лепш выкарыстоўваць) звярніцеся да касметолага. З прафесіянальнага пункту гледжання ён вам раскрые ўсе тайны прыгажосці. Але час — грошы, і кансультацыя вам абыдзецца ў 45 тысяч рублёў.

У **Цэнтры эстэтычнай касметалогіі** «Лала» наступныя цэны:

— вакуумная чыстка скуры — 240 тысяч рублёў, ручная — 150;

— маскі — ад 34 тысяч і вышэй (у залежнасці ад тых прэпаратаў, што будуць выкарыстоўвацца);

— масаж твару — ад 150 тысяч і вышэй.

**«ЭКАМЕДСЕРВІС»** прапануе вам комплекс працэдур, куды ўваходзяць і чыстка скуры, і адпаведныя маскі, пасля чаго расслабляльны масаж. Максімальны кошт такога комплексу — 270 тысяч рублёў. Вядома, па жаданню кліента можна асобна зрабіць і маскі, і чыстку, і масаж, але ўсё гэта ў комплексе значна танней. Чыстка каштуе ад 100 тысяч рублёў і вышэй. На масаж цана вар'іруецца ад 78 тысяч да 104. Кансультацыя са спецыялістам каштуе ў сярэднім 44 тысячы рублёў.

У **доме быту** на вуліцы Маскоўскай чыстку скуры вам зробяць за 52 тысячы, маска будзе каштаваць каля 42 тысяч рублёў.

Цяпер вам толькі застаецца вырашыць, куды пайсці. Адзінае магу сказаць: сваю прыгажосць лепш давяраць спецыялістам.

Што датычыцца цэн па-за межамі Мінска, то яны прыкладна такія ж. Сталічныя цэны адметныя толькі сваёй максімальнасцю. Таму пры жаданні наведаць мясцовыя цырульні ці касметычныя цэнтры вы можаце разлічваць на падобныя сумы.

**Інфармацыю падрыхтавала Юлія ПАЛТАЎСКАЯ.**

ВЕДАЙ НАШЫХ

# КІРКОРАЎ ПРАЙГРАЎ ВАЙТОВІЧУ З ЛІКАМ 0:1.

Адпрацаваўшы год у «Сябрах», малады спявак Леанід Вайтовіч вярнуўся ў Дзяржаўны канцэртны аркестр. Вяртанне аказалася вельмі ўдалым. Ужо гэтым летам яго накіравалі прадстаўляць Беларусь на міжнародным пятым фестывалі «Мальва-96», што праходзіў у Польшчы.

Сярод дваццаці трох удзельнікаў конкурсу ён аказаўся трэцім. Леанід Вайтовіч вылучаўся сярод іншых удзельнікаў конкурсу добрым вакалам, а таксама тым, што выканаў беларускую песню «Купалінка» без аркестравага суправаджэння, а капэла, што куды больш складана. У выніку прывёз студэнт эстраднага аддзялення музычнага вучылішча імя Глінкі з Польшчы музыкальны цэнтр у якасці прыза.

Кампазітар Эдуард Зарыцкі, які ўжо не першы год як член журы прысутнічаў на гэтым фестывалі, лічыць, што на міжнародных конкурсах маладыя беларускія спевакі могуць змагацца за першыя месцы. Доказ таму — вельмі ўдалае выступленне ў Польшчы Вайтовіча, які мае ўласны сцэнічны імідж і вельмі адказна працуе над песнямі. Магчыма таму Э. Зарыцкі даручыў Леаніду выконваць свае песні, адну з якіх — «Чорныя вейкі» — ужо спрабаваў спяваць Філіп Кіркораў, ды толькі кампазітару не вельмі спадабалася тое выкананне. Кажа, Вайтовіч зрабіў гэта лепш.

Хлопец з Рэчыцы ўпершыню «засвяціўся» на фестывалі «Маладзечна-94», заваяваўшы 1-ю прэмію з песняй свайго земляка Вячаслава Шарапава. Яго песні Леанід Вайтовіч спявае і зараз, але ўдала працуе і з класічным беларускім матэрыялам. Гэта быў яго першы міжнародны конкурс. Ці тое яшчэ будзе?..

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

## ВІНШАВАННІ

*Віншуем з днём нараджэння* ***Ларысу Віктараўну Клокал.*** *Жадаем моцнага здароўя, радасці і сямейнага шчасця.*
**Тата, мама, Андрэй, Лена, Дзіма, Оля, Каця.**

*Горача і сардэчна віншуем любімага сына, брата* ***Дзмітрыя Паўловіча*** *з днём нараджэння. Хай шчасце і радасць, здароўе і шчырае каханне заўжды будуць у тваім доме.*
**Бацькі, брат Андрэй, сястра Інеса з г. Мінска.**

*Віншуем з днём нараджэння пляменніка* ***Аляксея Шутро*** *з г. Мінска. Жадаем здароўя, шчасця, радасці, поспехаў у вучобе.*
**Урбаны.**

*Віншуем з днём нараджэння* ***Галіну Уладзіміраўну Глазко.*** *Жадаем моцнага здароўя, радасці, шчасця.*
**Віктар, Люба, Лена, Ларыса, Андрэй, Дзіма, Каця, Оля.**

*Сардэчна віншуем з днём нараджэння дарагую мамачку* ***Лідзію Рыгораўну Холад.*** *Жадаем моцнага здароўя, радасці, шчасця.*
**Сыны,** *г.п. Рудзенск.*

*Віншуем* ***Генадзя Чыпко і Наташу*** *з уступленнем у шлюб.*

*Пусть радость и счастье,*
*Любовь и удача*
*Всегда освещают*
*Ваш жизненный путь.*

**Родныя,** *г. Шуміліна.*

*Віншуем любую матулю* ***Людмілу Уладзіміраўну Гасцёнак*** *з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, шчасця ў жыцці. Будзь заўжды такой жа шчырай і добрай.*
**Дочкі Наталля і Святлана,** *г. Віцебск.*

ПРОИЗВОДСТВЕННОЕ ОБЪЕДИНЕНИЕ КУЗЛИТМАШ

# БЕЗ ДОБРАГА ПЛУГА І З ХЛЕБАМ ТУГА

**Народныя прымаўкі сканцэнтравалі ў сабе вопыт многіх пакаленняў. Сапраўды, калі добра не апрацаваць глебу, то высокага ўраджаю чакаць не прыходзіцца, хаця зямля можа быць пладароднай, насенне — элітным, а надвор'е — спрыяльным.**

**На дажынках у Століне я ўбачыў выстаўленую для агляду глебаапрацоўчую тэхніку. Аказалася, што гэтыя плугі і культыватары розных мадыфікацый выпускаюць тут, на Палессі.**

Дастаткова было пахадзіць па заводу, каб зрабіць выснову, што «Кузлітмаш» з'яўляецца салідным прадпрыемствам. Тут уражваюць не толькі агромністыя, з пяціпавярховы дом цэхі, масіўныя станкі, але і прадукцыя, якая тут вырабляецца.

Намеснік дырэктара па маркетынгу і знешнеэканамічных сувязях Уладзімір Арцюхоў паказвае **абсталяванне** для рэзкі ліставога і якаснага пракату, **прэсы** чаканачныя, халодна-высадачныя і інш., **комплексы** для гарачай папярочна-клінавой пракаткі, выраб тканай стальной **сеткі**, **аўтаматычныя фармовачныя лініі** для вытворчасці шырокай наменклатуры адлівак з прымяненнем разнастайных тэхналогій, **машыны** фармовачныя, кокільныя, для прыгатавання фармовачных матэрыялаў, для зачысткі і ачысткі адлівак, а таксама разнастайную **глебаапрацоўчую тэхніку** для калектыўных і фермерскіх гаспадарак.

«Кузлітмаш» з'яўляецца буйнейшым вытворцам станкабудаўнічай прадукцыі ў СНД, якая стабільна ідзе на экспарт у розныя краіны свету. Так, за два апошнія гады станкі прадпрыемства закуплялі Паўднёвая Карэя, ФРГ, Італія, Ізраіль, Індыя, Тайвань і іншыя.

Больш як дваццаць аўтаматычных фармовачных ліній з маркай «Кузлітмаша» працуюць на трактарных, аўтамабільных і арматурных заводах СНД.

Паслужны спіс прадпрыемства можна было б працягваць, хаця яно яшчэ даволі маладое. Утварылася ў 1985 годзе ў выніку зліцця двух заводаў — па выпуску ліцейнага і кавальска-прэсавага абсталявання.

У часы існавання СССР «Кузлітмаш» працаваў, як і большасць прадпрыемстваў аналагічнага тыпу. Быў план, заказы, цэнтралізаваныя пастаўкі пракату, на энерганосьбіты ніхто асаблівай увагі не звяртаў. І раптам усё гэта рухнула. Прадпрыемства было пакінута на волю лёсу, шукаць выйсце самастойна. У той сітуацыі, якая склалася, многае залежыць ад кіраўніцтва прадпрыемства, яго кемлівасці, умення прыстасавацца да рэальных эканамічных умоў.

«Кузлітмаш» зарыентаваўся ў правільным накірунку і некалькі гадоў таму назад пачаў выпускаць сельскагаспадарчую тэхніку для апрацоўкі глебы, адаптаваную да кліматычных умоў Беларусі. І вялікая заслуга ў гэтым генеральнага дырэктара Анатоля Іванавіча Сідаровіча, які ўзначальвае прадпрыемства амаль ад пачатку яго заснавання. Анатоль Іванавіч адзначыў, што вырабляць плугі і культыватары для такога прадпрыемства, як «Кузлітмаш», — не лепшы варыянт. Тут выступае чыста эканамічны фактар. Напрыклад, зрабіць адзін камплект абсталявання для вырабу металічнай сеткі з рыфлёнай асновай, які каштуе 600 млн. расійскіх рублёў, для прадпрыемства больш выгадна, чым адпаведную колькасць тых жа плугоў. Ды толькі час унёс свае карэктывы.

Плугі на Беларусі не выпрабляліся, іх наша сельская гаспадарка атрымлівала з Адэсы. А калі эканамічныя сувязі былі парушаны, «Кузлітмаш» сваімі сіламі за кароткі час асвоіў вытворчасць плугоў, вядомых у беларускіх калгасах як «адэскія». Але на гэтым прадпрыемства не спынілася.

Па ініцыятыве спецыялістаў, якія працуюць у сельскай гаспадарцы, на «Кузлітмашы» спраектавана і выраблена доследная партыя абаротных плугоў, здольных поўнасцю задаволіць патрэбы сельскай гаспадаркі Беларусі.

І ў цяперашні час гама выпускаемых плугоў ад традыцыйных «адэскіх» да 3—5 корпусных абаротных для трактароў маркі «МТЗ-12», «МТЗ-82», «МТЗ-1221», «Т-150», а таксама плугоў 3—6 корпусных балотных для трактароў маркі «Кіравец», якія прызначаны для апрацоўкі акультураных тарфяных балот, узорвання балотнай і лугавой цаліны пры асваенні чыстых балот і забалочаных мінеральных зямель.

Вырабляюцца і плугі гідрафікаваныя, з падрэсорнымі стойкамі для апрацоўкі камяністай глебы.

Але з глебаапрацоўчай тэхнікі, выпускаемай прадпрыемствам, вытворчасць абаротных плугоў найбольш выгадная, ды і «Кузлітмаш» тут з'яўляецца манапалістам.

Трэба адзначыць, што абаротныя плугі яшчэ мала выкарыстоўваюцца ў нашых гаспадарках, хаця і з'яўляюцца новай прагрэсіўнай тэхнікай.

Для чытача зраблю невялічкае тлумачэнне. Як сёння аруць зямлю ў калгасах?

Трактарыст дзеліць поле на ўчасткі. Праходзіць адну паласу, затым ухаластую едзе на другую паласу, і так па кругу, пакуль пасярэдзіне поля не пакіне глыбокую разору.

Увесь сакрэт абаротнага плуга ў тым, што ён працуе як праваадвальнымі карпусамі, так леваадвальнымі. Для гэтага дастаткова з дапамогай гідрапрывода трактара зрабіць паварот рамы плуга на 180°.

Ворыва такімі плугамі праводзіцца чаўнаковым спосабам. Туды і назад, без парожніх разваротаў. Ёсць рэальная выгада. Эканоміцца паліва, зберагаецца тэхніка і адбываецца больш высокакультурная апрацоўка глебы.

Не трэба думаць, што зрабіць плуг ці культыватар — вельмі проста. Так здаецца толькі на першы погляд. На справе ж для выпуску плуга простага, плуга трохкорпуснага абаротнага і культыватара неабходна мець 198 відаў пракату, з якіх толькі 30 відаў падыходзяць для ўсіх трох відаў тэхнікі.

Да нас, бывае, даходзіць «на дзесятыя суткі», а на Захадзе даўным-даўно аруць толькі абаротнымі плугамі. Там умеюць эканоміць. Спецыялісты «Кузлітмаша» выязджалі ў Чэхію, Славакію, Венгрыю для знаёмства з перадавым вопытам, новай тэхнікай.

За тры гады прадпрыемства не толькі асвоіла выпуск сельгастэхнікі, але і дэманстравала сваю прадукцыю на Усерасійскай міжнароднай выстаўцы «Сельгастэхніка-95» і на выстаўцы новых тэхналогій на Украіне. І тэхніка «Кузлітмаша» заслужана атрымала дыпломы.

Сёння тут працуюць 80 канструктараў, а ўзначальвае СКБ Аляксандр Іванавіч Новак, пад кіраўніцтвам якога і распрацоўвалася ўся гэтая тэхніка.

Прадпрыемства не «варыцца ў сваім саку», яно супрацоўнічае з Цэнтральным навукова-даследчым інстытутам механізацыі сельскай гаспадаркі (ЦНДІМСГ), Інстытутам праблем надзейнасці і даўгавечнасці машын Акадэміі навук Беларусі і інш.

Генеральны дырэктар А. Сідаровіч выказвае занепакоенасць станам сельскай гаспадаркі ў цэлым, бо гэта непасрэдна звязана і з прадпрыемствам. Калі будуць нашы калгасы (а пакуль што яны асноўныя пакупнікі) заможнымі, то і прадукцыя будзе купляцца ў вялікай колькасці.

А нашым калгасам глебаапрацоўчая тэхніка вельмі патрэбна. Мне прыходзілася бачыць, як у калгасах кляпаюць, зварваюць і выпрамляюць плугі, сеялкі, культыватары...

І тут патрэбна пэўная дзяржаўная праграма. Дапамагчы калгасам, даць ільготныя крэдыты, каб яны маглі абнавіць парк глебаапрацоўчай тэхнікі. Можна зразумець і кіраўніцтва калгасаў. На продаж прадуктаў ім устанавілі план і цвёрдыя цэны, а на закупку паліва і тэхнікі поўная свабода — рыначныя цэны.

На «Кузлітмашы» ўлічваюць сітуацыю ў сельскай гаспадарцы, таму і ўстанавілі даволі гібкую сістэму продажу сваёй тэхнікі для пакупнікоў. Напрыклад, калгас можа заплаціць 40 працэнтаў грашыма, а на астатнія 60 працэнтаў паставіць сваю прадукцыю па бартэру. Але ў асобных выпадках магчымы і 100-працэнтны бартэр. Мясам, маслам, мукой, бульбай і г.д. гаспадарка можа разлічыцца за атрыманую тэхніку.

Такія вось рэаліі нашых дзён. І вось яшчэ на што хочацца звярнуць увагу. Прыйшла восень. Узаралі, пасеялі і забаранавалі. Гаспадаркі будуць чакаць вясны, а там зноў трэба будзе араць ды баранаваць. Вось тады многія і ўбачаць, што патрэбны плугі і культыватары, а добра было б, каб заяўкі на «Кузлітмаш» паступілі ўжо сёння і прадпрыемства спакойна выканала б іх. А працаваць на склад, каму гэта выгадна? Дарэчы, склады на прадпрыемстве не затаварваны. Прадукцыю купляюць, і найперш у палескім рэгіёне, але тут выпускаюцца плугі абаротныя для камяністай глебы. Якой на той жа Гродзеншчыне цэлыя абшары. А плуг трохкорпусны для камяністай глебы (ПГП-3-35Б) ужываецца для апрацоўкі палёў, якія вельмі засмечаны каменнем. У гэтай мадыфікацыі кожны корпус плуга абсталяваны індывідуальнымі гідрапнеўмазасцерагальнікамі.

Уладзімір Міхайлавіч Арцюхоў, з'яўляючыся адказным за збыт прадукцыі, заклапочаны, каб тэхніка знайшла свайго пакупніка. Пра гэта турбуецца і начальнік аддзела маркетынгу Рыгор Валянцінавіч Шпітальнікаў. Іх праблемы зразумелыя.

Прадпрыемства таксама прапаноўвае культыватары навясныя (КПН-4 і КПН-4М) для ранневеснавога закрыцця вільгаці, культывацыі глебы і суцэльнай перадпасяўной апрацоўкі, культыватары (КМС-5,4-01) для перадпасяўной і міжрадковай апрацоўкі пасеваў цукровых, кармавых, сталовых буракоў і іншых прапашных культур, а таксама культыватары іншых мадыфікацый.

На «Кузлітмашы» імкнуцца абыходзіцца без пасрэднікаў, стараюцца, каб кошт прадукцыі быў як мага меншы. І ў той жа час выдаецца гарантыя на купленую тэхніку, ды і пакупнік можа набыць асобныя вузлы і дэталі да таго ці іншага агрэгата.

Кіраўніцтва прадпрыемства будзе ўдзячнае за ўсе прапановы, заўвагі і пажаданні, якія паступяць ад спецыялістаў і будуць датычыцца канструктарскіх асаблівасцей выпускаемай тэхнікі (тэл. (01653) 4-36-98 гал. канструктар).

Запрашаюцца да супрацоўніцтва дылеры, спажыўцы, аграфірмы, якія спрыялі б пашырэнню рынку збыту выпускаемай глебаапрацоўчай тэхнікі не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі.

Для заахвочвання на прадпрыемстве распрацавана палажэнне аб матэрыяльным стымуляванні.

**Падрыхтаваў матэрыял Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

***На здымках:***

***1. Генеральны дырэктар А.І. Сідаровіч (справа) і намеснік дырэктара па маркетынгу У.М. Арцюхоў.***

***2. Некаторыя віды глебаапрацоўчай тэхнікі, выпускаемай прадпрыемствам.***














**Адрас «Кузлітмаша»:**

**Беларусь, 225710, г. Пінск,**
**факс (01653) 4-30-09,**
**тэлетайп 229653 Лінія.**
***Тэл.: (01653) 4-32-09, 4-35-97, 4-36-02.***

ГІСТОРЫЯ ВАЧЫМА АСОБЫ

Анатоль БАГАТЫРОЎ:

# МАЕ СУСТРЭЧЫ СА СТАЛІНЫМ



## Неабходны ўступ

**Гэта былі часы, калі людзі ўздрыгвалі ад позняга званка, заміралі ад гуку крокаў па лесвіцы ў начной цішы, упікалі сябе за шчыра сказанае слова. І адначасова — «мы так вам верылі, таварыш Сталін, як, можа быць, не верылі сабе».**

**Можна доўга ламаць галаву, як гэта Анатолю Багатырову, які з маладых гадоў быў навідавоку, удалося ўцалець, наблізіўшыся так блізка да дыктатара. Бо дастаткова было пры размове проста «не тым» позіркам паглядзець. Вядома ж, што сталінская заўвага «А чаго гэта ў вас вочы бегаюць?» азначала, па сутнасці, распараджэнне «разабрацца».**

**Сапраўды, толькі няведанне жыцця дапамагае нам адольваць яго складанасці. Аднак «цуд ацаленасці» пакажацца яшчэ большым, калі ўлічыць, што А. Багатыроў зусім не з роду дагодлівых, і ніякай кантаты, араторыі, ды што там! — нават песні ў гонар Правадыра ўсіх народаў так і не стварыў.**

**Больш таго. Нарком унутраных спраў Наседкін неаднойчы выклікаў яго, як старшыню Саюза кампазітараў, патрабуючы санкцыі на арышт Цікоцкага, Аладава, Яфімава, Равенскага і іншых. «Не падпішу!» — кожны раз адказваў Анатоль Васільевіч. І ўрэшце ад яго адчапіліся. Як магло быць інакш, можна меркаваць па выбітаму Саюзу пісьменнікаў Беларусі...**

**Не здрадзіў ён і сяброўству з Дзмітрыем Шастаковічам, калі той трапіў пад знішчальную крытыку Пленума ЦК і абставіны патрабавалі «горача падтрымаць» абвінавачанне. І выдатны кампазітар сучаснасці не забыўся на гэта нават шмат гадоў пасля. У 1963 г. Шастаковіч, будучы ў Мінску, правёў вечар у гасцях у Багатырова, а ў 1970-м, даведаўшыся аб смерці яго жонкі Наталлі Сяргееўны, прыслаў пісьмо са спачуваннямі з г. Кургана, дзе ён лячыўся ў Ілізарава.**

**Вашай увазе прапануецца запіс успамінаў патрыярха беларускіх кампазітараў, народнага артыста рэспублікі Анатоля Васільевіча Багатырова, які выхаваў цэлую плеяду знакамітых вучняў. У іх ліку Яўген Глебаў, Генрых Вагнер, Ігар Лучанок, Юрый Семяняка, Сяргей Картэс, Дзмітрый Смольскі, Андрэй Мдзівані. Нягледзячы на свае 83 гады, ён яшчэ ў страі: загадвае кафедрай кампазіцыі ў Акадэміі музыкі, вядзе там заняткі, піша музыку. Здаецца, зараз у Беларусі няма больш нікога, хто мог бы падзяліцца ўласнымі ўражаннямі аб сустрэчах з чалавекам, які дзесяцігоддзі ажыццяўляў усю паўнату дзяржаўнай улады, прымусіў лічыцца са сваімі густамі, схільнасцямі і звычкамі нават людзей творчай сферы.**

Першы раз я ўбачыў Сталіна ў снежні 1938 г., на XVIII з'ездзе партыі. Вітаць з'езд лічылася тады сур'ёзнай справай, і беларуская дэлегацыя была вельмі прадстаўнічай: Якуб Колас, Янка Купала, старшыня Саюза пісьменнікаў Міхась Клімковіч, Кандрат Крапіва, Міхась Лынькоў, Пятро Глебка, Пятрусь Броўка. У гэтую дэлегацыю ўваходзіў і я як старшыня Саюза кампазітараў.

Мы чакалі сваёй чаргі каля зачыненых дзвярэй. Урэшце з залы пасяджэнняў выйшаў Панамарэнка, першы сакратар беларускага ЦК, і сказаў чамусьці шэптам: «Сам прысутнічае!»

Праз бакавыя дзверы мы прайшлі ў залу, падняліся на сцэну і сталі побач з прэзідыумам з'езда. «Сам» сядзеў з самага краю; два месцы побач з ім былі незанятыя.

Ларыса Александроўская, прымадонна беларускай оперы, пачала зачытваць тэкст прывітання. І раптам усе пачулі голас Сталіна:

— Чаму вы гаворыце па-руску? Гаварыце па-беларуску!

Ларыса Пампееўна не збянтэжылася і працягвала чытаць, «з ходу» перакладаючы прывітанне.

Калі мы выходзілі з залы, да нас падышоў чалавек у форме НКУС і запрасіў Александроўскую прайсці ў асобны кабінет.

Вядома, мы перапалохаліся. У тыя часы гэта магло азначаць самае дрэннае. Але хвілін праз дваццаць высветлілася: нічога страшнага, проста трэба было зверыць тэкст прывітання перад публікацыяй.

Пасля заканчэння з'езда быў банкет, на які нашу дэлегацыю таксама запрасілі. Ні да, ні пасля я такой раскошы ніколі не бачыў: самыя вытанчаныя віны і стравы, нейкую рыбу, гаварылі, спецыяльна з Байкала прывезлі, дзе быццам бы яна толькі і водзіцца. Гэта ж быў «з'езд пераможцаў», на якім таварыш Сталін «разбіў усіх ворагаў». І ўсе тосты былі толькі за Сталіна, «генія ўсяго чалавецтва». Здаецца, гэтая формула ўзнікла ўпершыню менавіта на гэтым банкеце.

Другі раз я ўбачыў кіраўніка дзяржавы на яго сустрэчы з аргкамітэтам, створаным для правядзення падрыхтоўчай работы па заснаванні Саюза савецкіх кампазітараў. Сярод членаў аргкамітэта разам з Шастаковічам, Хачатуранам, Мурадэлі, Кабалеўскім, Мяскоўскім і Шапорыным быў і я.

Усе члены аргкамітэта на чале з яго старшынёй Гліэрам былі запрошаны ў кабінет Сталіна. Гадзіны дзве, калі не больш, ён гутарыў з намі. Нам ставілася задача стварыць класічную савецкую оперу. «Чаму наша цудоўная эпоха не можа мець дастойнай савецкай класічнай оперы?» — задаваў ён рытарычнае пытанне. У прыклад нам прыводзіўся класічны савецкі раман «Ціхі Дон». Аказваецца, Сталін нават пытаўся ў Рамэна Ралана, ці можна параўноўваць Шолахава са Львом Талстым. І атрымаў дыпламатычын адказ: можна, але ўсё ж Шолахаў «трохі правінцыяльны».

З-за вайны аргкамітэт не здолеў правесці заснавальны з'езд кампазітараў, ды і з савецкай класічнай операй былі цяжкасці, і нас расфармавалі. Аб гэтым я даведаўся ад Хрэннікава, калі, прыехаўшы ў Маскву з Мінска, знайшоў яго ў кабінеце пад шыльдай «Генеральны сакратар ССК». «Ціхан, — пытаюся, — а ты чаму тут сядзіш?» «А гэта таму, — адказвае ён, — што таварыш Сталін паслаў нас усіх да такойта маці. Вось, чытай!» І падаў мне пастанову СНК, падпісаную Сталіным, дзе гаварылася аб роспуску нашага аргкамітэта і стварэнні новага пад старшынствам Асаф'ева. Было гэта ўжо ў красавіку 1948-га.

Але вернемся крыху назад. У чэрвені 1940-га адбылася дэкада беларускага мастацтва ў Маскве. Пасля спектакля, на якім была паказана мая опера «У пушчах Палесся», Панамарэнка і я, як аўтар, з жонкай былі запрошаны ў пакой прыёмаў, што прымыкаў да ўрадавай ложы. Прысутнічала Палітбюро ў поўным саставе.

— Вось таварыш, — сказаў Сталін, звяртаючыся да прысутных, — які піша правільную музыку. Не тое што нашы масквічы, якія накручваюць, накручваюць — нічога зразумець нельга.

Сталін стаў выпытваць пры ўсіх, хто я такі, адкуль родам. Даведаўшыся, што мой бацька скончыў духоўную семінарыю, ён сказаў:

— Дык ён жа мой родны брат! Вельмі хораша, што вы прытрымліваецеся традыцый рускай класікі. У вас адчуваецца штосьці ад Чайкоўскага, Рымскага-Корсакава. Ёсць меладычнасць, народнасць.

— Я ж, таварыш Сталін, — сказаў я, — вучыўся ў вучня Рымскага-Корсакава.

— Як яго прозвішча?

— Залатароў, Васіль Андрэевіч.

— Запішыце яго на ўзнагароду, — распарадзіўся мой высокі субяседнік.

І ўжо ў канцы дэкады і я, і Залатароў атрымалі па ордэну Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Наступная сустрэча была праз некалькі дзён — на банкеце з нагоды паспяховага завяршэння Дэкады беларускага мастацтва. Адбываўся ён у Крамлі, у Георгіеўскай зале. Танцавалі ў Гранавітай палаце. Памятаю, што я танцаваў з жонкай Молатава, а мая Наталля Сяргееўна — з Анастасам Мікаянам. Сталін не танцаваў, толькі глядзеў на танцуючых, стоячы ў дзвярах, што злучалі абедзве залы. У якасці кампліменту я пачуў ад Берыі пра сваю жонку: «Гаспадар сказаў: «Калі я гляджу на гэту жанчыну, у мяне ўвільгатняюцца вочы».

На банкеце Наталля Сяргееўна сядзела побач са Сталіным, я — побач з ёй. З другога боку ад Сталіна сядзела Ларыса Пампееўна. Гаспадар мне ўсё віно падліваў. Сам ён піў з паляўнічага рога, паліў люльку і нічога не еў.

Там жа, у перапынку, я пачуў ад Жданава: «Вы не крыўдуйце, што атрымалі толькі ордэн Працоўнага сцягу. Вы яшчэ атрымаеце вялікую ўзнагароду». «Што вы, Андрэй Андрэевіч, — адказаў я, — я вельмі рады і зусім не крыўдую».

Сапраўды, у сакавіку 41-га я разам з Дзмітрыем Шастаковічам, Юрыем Шапорыным, Мікалаем Мяскоўскім, Арамам Хачатуранам стаў лаўрэатам толькі што заснаванай Сталінскай прэміі. Мне было тады 27 гадоў.

У тым жа годзе адбылося пасяджэнне камісіі, старшынёй якой быў Гліэр, па святкаванню 100-годдзя з дня нараджэння П. І. Чайкоўскага. Раптам адчыняюцца дзверы — і ўваходзіць Сталін у суправаджэнні членаў Палітбюро.

Міхаіл Храпчанка, старшыня Камітэта па справах мастацтва, кінуўся дакладваць:

— Таварыш Сталін, у нас вялікая падзея: Дзмітрый Дзмітрыевіч даў згоду зрабіць новую рэдакцыю «Барыса Гадунова».

— А ў чым справа? — здзівіўся Сталін. — Ёсць жа добрая рэдакцыя Рымскага-Корсакава. Скажыце, Дзмітрый Дзмітрыевіч, у чым справа? Якая ваша думка?

Шастаковіч, моцна хвалюючыся:

— Не ведаю, таварыш Сталін, але мне прапануюць.

— А я лічу, — што гэтага рабіць не трэба. Рымскі-Корсакаў быў жа цудоўным кампазітарам, — сказаў Сталін.

І, пакуль ён не памёр, Шастаковіч новую рэдакцыю так і не змог ажыццявіць.

Падчас вайны, у 1944 г., у Маскву прыехаў Чэрчыль, і мы з жонкай зноў былі на прыёме ў Георгіеўскай зале.

Сталін стаяў з Чэрчылем воддаль, размаўлялі. Убачыўшы нас, ён зрабіў жэст пальцам: «Падыдзіце!» Мы падышлі.

— Знаёмцеся, спадар Чэрчыль, — сказаў ён, — гэта таварыш Багатыроў, кампазітар з Беларусі. Ён піша добрую музыку.

А незадоўга да таго мая кантата «Беларускім партызанам» на словы Янкі Купалы выконвалася ў Альберт-холе. Дырыжыраваў Алан Буш, вядомы англійскі кампазітар і дырыжор.

У 1947 г. мне давялося паглядзець «Жызель» з Галінай Уланавай. На гэтым спектаклі прысутнічалі дэ Голь і ўвесь французскі дыпкорпус. Мне было прыемна, што на французаўмужчын яўна зрабіла ўражанне Наталля Сяргееўна і яе ўбор — чырвоная сукенка, якую яна сама звязала, з сабаліным паланкінам. А на наступны дзень Сталін наладзіў прыём у гонар дэ Голя, на які мы таксама былі запрошаны. І зноў Сталін прапанаваў нам падысці і пазнаёміцца з замежным госцем.

Высокі, зграбны, сімпатычны — такім запомніўся дэ Голь. «У вас, у СССР, — сказаў ён, — ёсць Уланава. Гэта другая Ганна Паўлава. Я атрымаў велізарнае задавальненне ад спектакля».

Гэта быў апошні прыём, наладжаны самім Сталіным.

Наступіў 1948 год, год пагрому кампазітараў. Але на прыёмах з удзелам Сталіна мы з жонкай некалькі разоў яшчэ былі. Напрыклад, на прыёме, наладжаным Броз Ціта. Сталін любіў «прымусіць сябе чакаць»: ніхто, вядома, не падыходзіў да стала, пакуль ён не з'яўляўся. Так было і на гэты раз: ён імкліва і нечакана прайшоў у залу між намі і Эрэнбургам, які стаяў побач і таксама чакаў. Адразу ж пачалася бурная авацыя.

Прыходзіў Сталін і на прыёмы, якія наладжваў Молатаў у МУС, у былым Марозаўскім асабняку. Наталля Сяргееўна сябравала з яго жонкай Жамчужнікавай. Аднойчы Молатаў сказаў ёй: «Мы з таварышам Сталіным вельмі паважаем Анатоля Васільевіча, і пакуль мы жывыя, яму няма чаго баяцца».

Так, знаёмства са Сталіным мне неаднойчы дапамагло. У 1951-м, напрыклад, нада мной, як рэктарам кансерваторыі, навіслі хмары.

— Ты чаго там сінагогу наладзіў? — запытаўся аднойчы Зімянін, другі сакратар ЦК.

— Я не наладзіў, як было, так і ёсць, — адказаў я.

— Чаму нацыянальныя кадры не вырошчваеш? Прыйдзецца назначаць камісію. Будзем цябе здымаць.

Дзесьці праз тры месяцы збіраецца бюро ЦК. Сярод прысутных і Цанава, стаўленік Берыі. Патолічава няма — ён у Маскве па партыйных справах. Нічога добрага мне ўсё гэта не абяцала.

Зімянін паведамляе аб маіх грахах — не клапачуся аб падрыхтоўцы нацыянальных кадраў. Потым пытаецца:

— Хто хоча выказацца?

Слова бярэ — хто б вы думалі? — Цанава.

— Таварыш Багатыроў, — гаворыць ён важка, — наш нацыянальны беларускі кадр. Акрамя таго, ён некалькі разоў сустракаўся з таварышам Сталіным.

Усталёўваецца маўчанне. Жадаючых выступаць больш няма.

— Пытанне не падрыхтавана, — падсумоўвае Зімянін. — Пачакаем, пакуль Мікалай Сямёнавіч вернецца.

Але і пасля вяртання Патолічава гэтае пытанне больш не ўздымалася.

**Запісаў Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ.**

Анталогія беларускай песні

# У БАЦЬКОЎСКІМ КУТКУ

**Вакальныя творы, выкананыя дуэтам, набываюць аб'ёмнасць, маштабнасць, напаўняюцца новым сэнсам. Непаўторнай застаецца ў памяці песня «У бацькоўскім кутку» ў выкананні Алесі і Дзмітрыя Смольскага.**

На той час салісты з ансамбля «Сябры» прываблівалі сваёй маладосцю, непасрэднасцю. Крыху наіўна, але вельмі міла вымаўляліся імі словы з гэтай песні «Я з табой, а тым, а ты са мною, Як дзве зорачкі ў адной» — і гучалі як прызнанне. Верш Ніла Гілевіча ўспрымаўся па-філасофску заглыбленым. Апявалася не толькі каханне. Услаўляліся яго моц, здольнасць перайначыць асобу: пабудзіць яе адчуваць навакольны свет у разнастайных фарбах і гуках. У спалучэнні з музыкай, напісанай Ігарам Лучанком, паэтычны тэкст з вуснаў маладых вакалістаў падаваўся як спеўны трактат пра зіхатлівае каханне паміж людзьмі і любоў да роднай старонкі.

На Першым фестывалі беларускай песні і паэзіі ў Маладзечне песня «У бацькоўскім кутку», якую спявалі Алеся і Дзмітрый Смольскі, карысталася поспехам. Яна набыла папулярнасць, часта гучыць на маладзёжных вечарынах.

**Міхась ШАВЫРКІН.**




***Верш Ніла Гілевіча***
***Музыка Ігара Лучанка***

У бацькоўскім кутку, краі слынных бароў,
Помню ўсмешку тваю, позірк ясны без слоў,
Выйду ўранку зару сустракаць за сялом,
Тваіх рук, мілых рук прыгадаю цяпло.

*Прыпеў:*

І пачую зноў голас твой,
Знай, мая любоў, я з табой.
Я з табой, а ты, а ты са мною,
Як дзве зорачкі ў адной.

У бацькоўскім кутку водар зёлак лясных
Я ўдыхаю і п'ю, нібы з вуснаў тваіх,
Ціхі ветрыка лёт, што галубіць зямлю,
Як дыханне тваё, пераймаю, лаўлю.

*Прыпеў.*

Прыйдзе зорная ноч, цішай дол ахіне,
Сваіх воч, карых воч, не адводзь ад мяне.
І праз далечаў даль і скрозь морак начны
Я змагу разгадаць, што мне скажуць яны.

*Прыпеў.*

## «Палацу» падабаюцца беларускія бабулькі

**У кожнага летам свае маршруты. А гурт «Палац» у жніўні вандраваў па родных беларускіх вёсках. Маршрут тура складаўся па прынцыпу: туды, дзе, па магчымасці, не ступала нага фальклараста. Паляванне на «скарбы» беларускай песні праходзіла на Магілёўшчыне і па ўскраіне Мінскай вобласці.**

А ўсё пачалося з запрашэння з нямецкага горада Канстанца паўдзельнічаць у «Сусветных днях музыкі», якія адбудуцца ў лістападзе. «Дні музыкі» павінны прадэманстраваць музычныя традыцыі розных краін свету. І вось «Палац» задумаў здзівіць свет...

«Скарбы» ёсць, сцвярджаюць «паляўнічыя». Творчая экспедыцыя ў кожнай вёсцы знаходзіла бабулек-пяюх, якія дэманстравалі вышэйшы клас спеваў. Падабаюцца «Палацу» беларускія бабулькі, што тут казаць! Жанчыны спявалі, а за імі пільна сачыла «палацаўская» відэакамера, фіксуючы самыя цёплыя моманты сустрэчы. Пакуль «Палац» любоўна здымаў бабулек, творчая група кінастудыі «Беларусьфільм» усё гэта запісвала на сваю стужку з мэтай стварыць нешта накшталт прыгодніцкага фільма пра шукальнікаў скарбаў. Самі ж удзельнікі гурта лічаць, што натрапілі на матэрыял, які можа зрабіць сенсацыю не толькі ў Германіі, але і на роднай Беларусі таксама. Аднак яшчэ застаецца разгадаць, чаму ў Маравіі, Трансільваніі можна сустрэць назвы вёсак з такімі ж каранямі, як на Беларусі, чаму ў беларускіх народных песнях і румынскіх вельмі падобны музычны лад. Адказы мы, напэўна, пачуем, калі з'явіцца новая праграма гурта «Палац».

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

# Святыні вайны і міру






У Беларусі не шмат месцаў пахавання ахвяр першай сусветнай вайны і тым больш могілак воінаў варожай некалі арміі. Упершыню я адкрыў для сябе тагачасныя нямецкія могілкі дзесяць гадоў назад, вандруючы па Нарачанскаму краю, дзе, як вядома, ішлі жорсткія баі паміж войскамі Германіі і расійскай імперыі. Жудасна выглядалі тады помнікі на магілах нямецкіх салдат у мястэчку Кабыльнік. А пра гэткае ж месца ў вёсцы Пронькі наогул згадваць сорамна.

Мінулым летам я зноў наведаў старыя мясціны і не пазнаў іх. Прыбраныя, дагледжаныя, упарадкаваныя. І ў Кабыльніку, і ў Проньках, і ў Засвіры. Давялося пачуць, што ў аднаўленні нямецкіх могілак бралі ўдзел германская арганізацыя Deutsche Kriegsgraber fur sorge», а таксама патрыятычная моладзь з Беларусі.

Гэтыя здымкі зроблены каля Пронек, дзе 80 гадоў назад ішлі цяжкія, знясільваючыя баі. Параненых і забітых было процьма, і пахаванні адбываліся ў розных месцах. І цяпер яшчэ па лясах і пагорках захаваліся іх рэшткі.

Але ў 30-х гадах, па згодзе дзвюх краін, было зроблена перапахаванне ў адно месца. Пронькаўскі пантэон вайны павялічыўся ў шмат разоў.

«Памяць і пашана героям Бацькаўшчыны» — надпіс на цэнтральным мануменце могілак. А вакол — больш за тысячу звычайных пліт з імёнамі і датамі смерці. Ёсць помнікі арыгінальнай работы — справа рук добрых майстроў разьбы па каменю — гэта магілы афіцэраў.

Сёння ўжо не сорамна паказваць гэтыя мясціны гасцям з Нямеччыны, якія ўсё часцей наведваюць Беларусь як з дабрачыннымі мэтамі, гэтак і па справах бізнесу, палітыкі і турызму. Дабрацца ў Нарачанскі край не складае асаблівых праблем — усяго 150 км ад сталіцы.

Вельмі магчыма, што менавіта ў гэтых куточках спачываюць тыя, каго яшчэ памятаюць у нямецкіх сем'ях і спадзяюцца адшукаць месца іхняга апошняга прыстанішча.

**Анатоль КЛЯШЧУК.**
**Фота аўтара.**





## АФІЦЫЙНА

У адпаведнасці з артыкулам 8 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь і артыкулам 43[1] Закона Рэспублікі Беларусь «Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь» просім вас апублікаваць пастановы Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў.

**Старшыня Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў В. ГАНЧАР**

## ПАСТАНОВА ЦЭНТРАЛЬНАЙ КАМІСІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ВЫБАРАХ І ПРАВЯДЗЕННЮ РЭСПУБЛІКАНСКІХ РЭФЕРЭНДУМАЎ

*19 верасня 1996 года*

**ПЫТАННІ ПРАВЯДЗЕННЯ 24 ЛІСТАПАДА 1996 ГОДА РЭСПУБЛІКАНСКАГА РЭФЕРЭНДУМУ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ**

У адпаведнасці з пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 6 верасня 1996 года «Аб правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму і мерах па яго забеспячэнню» Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў **пастанаўляе:**

1. Устанавіць наступныя формы дакументаў па правядзенню 24 лістапада 1996 года рэспубліканскага рэферэндуму ў Рэспубліцы Беларусь:

а) спіса грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія маюць права ўдзельнічаць у выбарах дэпутатаў, у рэспубліканскім і мясцовых рэферэндумах у Рэспубліцы Беларусь;

б) пратакола ўчастковай камісіі па рэферэндуму аб выніках галасавання па ўчастку;

в) пратакола раённай, гарадской, раённай у горадзе камісіі па рэферэндуму аб выніках галасавання па раёну, гораду, раёну ў горадзе;

г) пратакола абласной, Мінскай гарадской камісіі па рэферэндуму аб выніках галасавання па вобласці, гораду Мінску.

Формы спіса і пратаколаў дадаюцца.

2. Устанавіць наступную форму бюлетэня для галасавання 24 лістапада 1996 года на рэспубліканскім рэферэндуме ў Рэспубліцы Беларусь белага колеру, памер 210х290 мм;

уключыць у бюлетэнь для галасавання пытанні, якія ўнесены Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь і дэпутатамі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь на рэспубліканскі рэферэндум.

Тэкст бюлетэня дадаецца.

3. Устанавіць узор скрынкі для галасавання для прыёму бюлетэняў па рэспубліканскаму рэферэндуму:

скрынка драўляная вышынёй 85 см, памерам 50х40 см, пакрыўка адкідная на завесах з прарэзам для апускання бюлетэняў. Скрынка і пакрыўка маюць металічныя вушкі для апячатвання або пламбіравання.

4. Устанавіць, што пры падрыхтоўцы і правядзенні рэспубліканскага рэферэндуму:

абласныя, Мінская гарадская, раённыя, гарадскія, раённыя ў гарадах камісіі па рэферэндуму карыстаюцца пячаткамі органаў, якія іх утварылі;

участковыя камісіі па рэферэндуму карыстаюцца металічнымі пячаткамі ўчастковых выбарчых камісій Рэспублікі Беларусь.

5. Спісы грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія маюць права ўдзельнічаць у рэферэндуме, у раёнах і гарадах, дзе дадатковыя паўторныя выбары дэпутатаў не праводзяцца, складаюцца нанава.

На ўчастках для галасавання, у якіх адначасова з дадатковымі паўторнымі выбарамі дэпутатаў адбудзецца галасаванне па рэферэндуму, яно праводзіцца па спісах выбаршчыкаў, удакладнёных напярэдадні паўторных выбараў і рэферэндуму, а пры неабходнасці, па складзеных нанава спісах грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія маюць права ўдзельнічаць у выбарах дэпутатаў і рэферэндуме.

6.У мэтах выключэння падлогу бюлетэняў па рэферэндуму прызнаць неабходным, каб участковыя камісіі па рэферэндуму на адваротным баку бюлетэняў ставілі подпісы не менш двух асоб, якія ўваходзяць у склад камісіі.

7. У адпаведнасці з пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 18 верасня 1996 года ў абласцях, горадзе Мінску, раёнах і гарадах, дзе Саветы дэпутатаў у поўным складзе не выбраны, і адпаведныя тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі назначылі дадатковыя паўторныя выбары дэпутатаў на 24 лістапада 1996 года, паўнамоцтвы абласных, Мінскай гарадской, раённых, гарадскіх і ўчастковых камісій па рэферэндуму ажыццяўляюць адпаведныя тэрытарыяльныя (абласныя, Мінская гарадская, раённыя, гарадскія) і ўчастковыя камісіі па выбарах дэпутатаў.

У раёнах і гарадах, дзе раённыя і гарадскія Саветы дэпутатаў выбраны ў поўным складзе і тэрмін паўнамоцтваў участковых выбарчых камісій скончаны, раённыя і гарадскія (гарадоў абласнога падпарадкавання) Саветы дэпутатаў павінны да 24 кастрычніка 1996 года ўтварыць участковыя камісіі па рэферэндуму.

У гарадах з раённым дзяленнем пры немагчымасці склікання сесій раённых Саветаў дэпутатаў або правядзення пасяджэнняў іх прэзідыумаў утварэнне раённых у гарадах і ўчастковых камісій па рэферэндуму можа быць пры неабходнасці зроблена гарадскімі Саветамі дэпутатаў або іх прэзідыумамі.

8. У адпаведнасці з артыкулам 8 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь», у мэтах усебаковага і аб'ектыўнага растлумачэння пытанняў, якія вынесены на рэферэндум:

сродкам масавай інфармацыі, адным з заснавальнікаў якіх выступаюць дзяржаўныя органы, арганізацыі, установы, а таксама сродкам масавай інфармацыі, што часткова фінансуюцца за кошт дзяржаўных сродкаў, забяспечыць роўныя магчымасці агітацыі па пытаннях, што выносяцца на рэферэндум.

Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі распрацаваць і не пазней 1 кастрычніка 1996 года прадставіць на разгляд Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў прапановы па асвятленню на роўных умовах на тэлебачанні і радыё пытанняў, якія вынесены на рэспубліканскі рэферэндум Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь і дэпутатамі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

9. Зыходзячы з часткі першай артыкула 9 і пункта 3 артыкула 17 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь» растлумачыць, што добраахвотныя ўзносы прадпрыемстваў і арганізацый, грамадскіх аб'яднанняў і грамадзян, якія перадаюцца імі на падрыхтоўку і правядзенне рэспубліканскага рэферэндуму павінны пералічвацца на рахунак Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў № 3031202440031 у гарадской дырэкцыі Белбізнесбанка горада Мінска, код 764.

10. Прасіць Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь забяспечыць выданне тэкстаў праектаў, якімі прадугледжана ўнясенне змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, не пазней чым за 20 дзён да рэферэндуму для забеспячэння імі ў адпаведнасці з патрабаваннямі артыкула 31 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь» участкаў для галасавання.

**Старшыня Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў В. ГАНЧАР**

**Сакратар Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў І. ЛІХАЧ**

## ПАСТАНОВА ЦЭНТРАЛЬНАЙ КАМІСІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ВЫБАРАХ І ПРАВЯДЗЕННЮ РЭСПУБЛІКАНСКІХ РЭФЕРЭНДУМАЎ

*19 верасня 1996 г.*

**АБ РАСТЛУМАЧЭННІ ПЫТАННЯ, ЯКОЕ ЎЗНІКЛА ПРЫ ПРЫМЯНЕННІ АРТЫКУЛАЎ 18, 20 І 23 ЗАКОНА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ «АБ НАРОДНЫМ ГАЛАСАВАННІ (РЭФЕРЭНДУМЕ) У РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ»**

У сувязі з узнікшымі пытаннямі па прымяненню артыкулаў 18, 20 і 23 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб народным галасаванні (рэферэндуме) у Рэспубліцы Беларусь» з мэтай аднолькавага прымянення Закона, на падставе пункта 1 артыкула 17 гэтага Закона, Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў **пастанаўляе:**

Зыходзячы з палажэнняў артыкула 5 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, растлумачыць, што вылучаць прадстаўнікоў у састаў камісій па рэферэндуму маюць права адпаведныя органы палітычных партый і іх пярвічныя арганізацыі.

**Старшыня Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў В. ГАНЧАР**

**Сакратар Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў І. ЛІХАЧ**

## ВЯСКОВАМУ ГАСПАДАРУ

### А вы падрыхтавалі бочку?

Зусім хутка гаспадары і гаспадыні пачнуць квасіць капусту на зіму. Для гэтага часцей, асабліва ў вёсцы, выкарыстоўваюць драўляныя бочкі, выробленыя з ліставых парод дрэў. А вось бочкі з хваёвых парод для салення і квашання непрыдатныя, бо іх драўніна выдзяляе смалу, якая псуе колер і смак нарыхтовак і прыдае ім спецыфічны пах.

Як жа падрыхтаваць бочку? Спачатку яе трэба старанна вымыць і праверыць, ці не цячэ. Калі цячэ, то бочку неабходна «забучыць». Для гэтага яе напаўняюць сенам або саломай, зверху кладуць цяжкі камень, асцярожна наліваюць кіпень і зачыняюць накрыўкай. Праз дзень-два бочка набухне, пасля яе старанна прамываюць і дэзінфіцыруюць нягашанай вапнай. Вапна бярэцца з разліку 0,3—0,5 кг на 10 л вады. Засыпаюць яе прама ў бочку і размешваюць з невялікай колькасцю вады да атрымання кашкі. Ваду даліваюць асцярожна, таму што пры гашэнні вапны развіваецца высокая тэмпература і выдзяляецца многа пары. Калі кашка астыне, яе размазваюць па сценках бочкі, кружка і накрыўкі, затым напаўняюць вадой і пакідаюць на суткі, зрэдку памешваючы вапнавае малако чыстай драўлянай палкай. На наступны дзень ваду выліваюць і старанна прамываюць бочку. У бочцы, апрацаванай такім чынам, нарыхтоўкі доўга не будуць плеснець.

Прапарыць бочку можна і пры дапамозе чыста вымытага каменя, распаленага на агні. Спачатку бочку заліваюць кіпенем, а каб ён даўжэй не астываў, кладуць дачырвана распалены камень. Рабіць гэта трэба з вялікай асцярожнасцю.

Добрай дэзінфекцыяй для бочкі з'яўляецца прапарванне яе з галінкамі ядлоўцу і мяты. Ядловец цудоўна знішчае розныя мікраарганізмы і непрыемныя пахі.

### Захоўванне морквы

*«Як захаваць моркву да вясны?»*

**В. ТРАЯК.**

Як вядома, морква асабліва патрабавальная да ўмоў захоўвання. Звычайна яе ўтрымліваюць пры тэмпературы плюс 1 — мінус 1 градус і вільготнасці паветра ў 90—95 працэнтаў. Нават пры нязначным павышэнні тэмпературы і паніжэнні вільготнасці яна пачынае прарастаць, вянуць. Закладваюць на захоўванне свежыя, цэлыя, здаровыя, сухія караняплоды. Лепшы спосаб захоўвання — пескаванне іх у скрынях ёмістасцю 15—20 кг. Складзеную ў скрынку радамі моркву пафслойна перасыпаюць чыстым сярэднезярністым вільготным пяском. Каб вызначыць патрэбную вільготнасць, пясок сціскаюць у жмені, пры гэтым не павінна сачыцца вада, а камяк павінен захоўваць сваю форму. Запоўненыя скрынкі ставяць штабялямі да 2 м у вышыню. Караняплоды можна захоўваць і на падлозе ў склепе. Іх пажадана класці галоўкамі ўверх і рады перасыпаць вільготным пяском. Для засцярогі ад захворванняў у пясок можна падмяшаць мел ці сухую гашаную вапну. Пясок мяняць штогод на свежы, каб не распаўсюджваліся хваробы.

Добра захоўваецца морква пры глінаванні. Караняплоды апускаюць у смятанападобную баўтушку з гліны, пасля чаго закладваюць у скрынкі са шчылінамі. Пасля высыхання на караняплодах утвараецца тонкі чахол з гліны, які перашкаджае выпарэнню вільгаці, распаўсюджванню хвароб.

Караняплоды нядрэнна захоўваюцца ў буртах і траншэях. Для морквы рэкамендуецца буртаванне з перасыпаннем апілкамі хвойных парод, шалупіннем цыбулі, пяском. Бурт спачатку ўкрываюць зямлёй, потым саломай і зноў тонкім слоем пяску.

-1296-

## МУЖЧЫНА Ў ЛЮСТЭРКУ

### Лысіна — не перашкода

**Мужчыны-неахайнікі выміраюць. Усё больш прадстаўнікоў моцнай палавіны знаходзяць задавальненне ў доглядзе за сабой і надаюць немалаважнае значэнне сваёй знешнасці.**

**І калі раней ініцыятыву ў гэтым праяўлялі выключна жанчыны, то цяпер сітуацыя змянілася. Мужчыны вырашылі, што яны таксама могуць забяспечыць сябе ўсім неабходным, што зробіць іх прывабнымі. Дарэчы, тое, што мужчыны неабыякавыя да сваёй знешнасці, выяўляецца ўжо тады, калі ў іх пачынаюць выпадаць валасы. Гэтая праблема ўсё яшчэ стаіць на першым месцы. Дык вось...**

#### Праблема № 1 — выпадзенне валасоў

Большасць мужчын адчайна імкнуцца спыніць працэс выпадзення валасоў уціраннем розных прэпаратаў — але беспаспяхова! Справа ў тым, што выпадзенне валасоў у мужчын запраграміравана генетычна і магло б быць спынена толькі пасля прыёму пэўных гармонаў, якія, аднак, у сваю чаргу нанеслі б непапраўную шкоду арганізму. Таму мужчынам не застаецца нічога іншага, як толькі працягваць песціць свае шавялюры сродкамі, якіх цяпер дастаткова. Магчыма, будуць карыснымі і наступныя парады дэрматолага.

♦ Мыйце галаву толькі вадой, якая прапушчана праз ачышчальны фільтр або гатаванай. Не шкадуйце для гэтага часу і не кажыце пагардліва: «Ну, важдацца яшчэ!» Экалогія такая, што лепш паваждацца. Для паласкання замест спецыяльнага бальзаму, які неабходна падабраць індывідуальна, час ад часу бярыце крыху піва або натуральнага лімоннага соку з вадой, а праз 5—7 хвілін прамыйце валасы.

♦ Для стымуляцыі росту валасоў за 2-3 гадзіны да мыцця з дапамогай зубной шчоткі ў скуру ўцірайце — толькі асцярожна, па росту валасоў — свежы сок цыбулі або часнаку. Хочаце больш моцных адчуванняў? Дабаўце ў сок пару кропель, выціснутых са свежага пякучага перцу. У гэтым выпадку раздражняльны эфект будзе мацнейшы, і мыць галаву трэба ўжо праз 15 хвілін.

♦ Менш карыстайцеся фенам, а лепш адмовіцца ад яго зусім.

♦ Ніколі не расчэсвайце мокрыя валасы.

♦ Назаўсёды выкіньце металічныя расчоскі — толькі пластмаса, а яшчэ лепш — драўніна. Расчэсвайце толькі па ходу росту валасоў.

♦ Ніколі не насіце цесных цёплых шапак. Масаж ветру і халаднаватага паветра (толькі не марозу!) нават карысны. А парніковы эфект знішчае валасы на корані.

♦ Вам карысна есці больш прадуктаў з жэлацінам — халадзец, заліўное і ўсялякія жэле.

♦ Калі ж выпадзенне валасоў спыніць не ўдаецца, не адчайвайцеся.

**Шчыра кажучы — мы, жанчыны, не вельмі разумеем пакуты процілеглага полу ў сувязі з лысінай. Калі ўвесь сыр-бор з-за нас (а хочацца думаць, што гэта так!), далібог, не ў шавялюры шчасце, не ў ёй поспех. Жанчыны насцярожана адносяцца да маляваных прыгажуноў. Паглядзець нібы і прыемна, але мець побач, аберагаць... Хай лепш, думае кожная жанчына, аберагаюць мяне і захапляюцца мною.**

**Будзьце з намі ўважлівымі, клапатлівымі, ласкавымі (розум мы самі ацэнім!), і ні аб якой лысіне не будзе ісці размова — мы яе і не заўважым.**

-1297-

## УСХОДНІ ГАРАСКОП НА НАСТУПНЫ ТЫДЗЕНЬ

КАЗЯРОГ стане палоннікам звычайных спраў і руціннай работы. Спробы распачаць новы праект сутыкнуцца з цяжкасцямі, час будзе займаць работа з дакументамі і карэспандэнцыяй. Стомленасць дапаможа развеяць сустрэча са шчырым сябрам, якога не бачылі сто гадоў.

ВАДАЛЕЙ не павінен страчваць спакой ад крыўдных промахаў на рабоце. Вам трэба супакоіцца і самім выправіць памылкі. Дапамога можа прыйсці ад любога чалавека, які праявіць цікавасць да вашага бізнесу. Сумесная дзейнасць дазволіць вам больш часу бавіць разам.

РЫБАМ парада набрацца цярплівасці, без якой не рэалізаваць новыя ідэі і планы. Перад пачаткам нечага грандыёзнага даведайцеся аб меркаванні спецыялістаў, прыслухайцеся да парад знаўцаў. Не бойцеся рызыкаваць. Зоркі гарантуюць вам поўны поспех у новых справах.

АВЕНЫ могуць аказацца выпадковымі ахвярамі памылак іншых, але не трэба ад гэтага ўпадаць у адчай — усё будзе добра, калі не будзеце трымаць злосці на віноўнікаў вашых цяжкасцей. Бізнесменам давядзецца мабілізаваць усе свае фінансавыя рэсурсы для вырашэння фінансавых пытанняў.

ЦЯЛЬЦЫ няхай рыхтуюцца атрымаць новыя назначэнні, якія прымусяць памяняць месца жыхарства. Дамашні бюджэт могуць парушыць непрадбачаныя расходы, у тым ліку з-за фінансавання замежнай паездкі некага са сваякоў.

БЛІЗНЯТАМ лепш за ўсё адмовіцца ад будаўніцтва грандыёзных планаў. Усё роўна потым давядзецца ўсё мяняць і перакройваць. Зоркі прадбачаць парушэнне ўзаемаразумення з калегамі па рабоце. Не дазваляйце ўцягваць сябе ў інтрыгі, адыдзіце ў бок ад закуліснай барацьбы.

РАК атрымае важную інфармацыю, якая дапаможа ўмацаваць становішча ў бізнесе. Даходы, аднак, акажуцца напалову меншыя за тыя, што чакаліся, затое не будзе і фінансавых страт. Не пакідайце далёка і надоўга свой офіс, там неабходна ваша прысутнасць.

ІЛЬВЫ не павінны мяняць месца работы. Любы поспех на новай ніве будзе толькі часовым. Ёсць гарантыі таго, што вы пераадолееце цяперашнія цяжкасці. Наперадзе вас чакае поспех. Будзьце шчырыя з тымі, хто вас акружае, яны ацэняць вашу шчырасць.

ДЗЕВЕ зоркі адмаўляюць у задавальненні ад працы. Давядзецца змірыцца таксама і з марнасцю намаганняў нешта памяняць у жыцці. Не трэба з-за гэтага крыўдзіцца на ўвесь свет, а цярпліва працягваць пачатае. Мацней захоўвайце ўласныя сакрэты — нехта паспрабуе выцягнуць у вас патаемнае.

ШАЛЯМ трэба паводзіць сябе прасцей, і тады народ да вас пацягнецца. Але не варта пазычаць грошы ўсім жадаючым атрымаць іх ад вас. І не аслабляйце пільнасць. Магчыма, што блізкія калегі паспрабуюць перакласці на вас свае клопаты.

СКАРПІЁН павінен перажываць за даручаную справу. Інакш можа застацца без работы, знайсці якую будзе вельмі складана. Многія праблемы дапаможа вырашыць ваша сям'я. А тым, хто яе пакуль не мае, зоркі раяць распачаць пошукі блізкага чалавека. Час для гэтага цяпер самы спрыяльны.

СТРАЛЬЦАМ трэба рыхтавацца да сур'ёзных перамен у бізнесе. Планеты спрыяюць пачатку новых праектаў і пашырэнню вашай дзелавой актыўнасці. Падтрымка зоркамі пачынанняў гарантаваная, так што смела пускайцеся ў плаванне з упэўненасцю ў поспеху.

**Леанід КОТАЎ, кар. ІТАР—ТАСС.**
*г. Дэлі.*

## МАЛЕНЬКІЯ ХІТРАСЦІ

### Зручныя прыстасаванні

**Умельцам, якія захапляюцца сталярнымі і слясарнымі работамі, прапануем нескладаныя прыстасаванні. Іх можна змайстраваць у хатняй майстэрні.**

#### ДЛЯ СТЭЛАЖОЎ І ПАЛІЦ




Гэтая канструкцыя «хітрага» вуглавога злучэння дазваляе хутка мацаваць планкі 1 і 2 да апорнай дэталі 3 за кошт скабы 4 з заплечыкамі і распоркі 5. Яна падціснута да апорнай дэталі 3 вінтом 6. Такое злучэнне зручна прымяняць для мацавання ножак стала, пры вырабе стэлажоў і паліц, калі іх неабходна часта разбіраць. Мяняючы становішча вінта адносна апорнай дэталі (па яе даўжыні трэба зрабіць некалькі адтулін або пазоў), лёгка «настройваць» становішча планак у прасторы.

#### ЦЭНТРАШУКАЛЬНІК

Іншы раз узнікае неабходнасць разрэзаць рэйку або дошку ўздоўж на дзве часткі. І прыходзіцца кожны раз лінейкай вымяраць шырыню рэйкі, дзяліць яе папалам, адмяраць патрэбны лік на загатоўцы і злучаць гэтыя кропкі прамой лініяй. Значна прасцей зрабіць цэнтрашукальнік — нескладанае прыстасаванне, якое дазваляе выконваць гэтую аперацыю без усялякіх вымярэнняў. Для гэтага вам спатрэбіцца дошчачка і тры цвікі. Забіце іх, як гэта паказана на малюнку, — і цэнтрашукальнік гатовы. Вартасць яго ў тым, што ён дазваляе размячаць рэйкі рознай шырыні.

Дарэчы, такім жа чынам можна праводзіць лініі, якія адмяраюць трэць, чвэрць рэйкі і г.д. Трэба толькі размясціць цвікі на дошцы так, каб суадносіны адлегласцей паміж імі адпавядалі выбранай вамі адлегласці.




#### РУХОМЫЯ «ШЧОЧКІ»

Калі рубанак або фуганак аснасціць рухомымі жалезнымі «шчочкамі», як паказана на малюнку, можна свабодна абыходзіцца без рэйсмуса, пры дапамозе якога звычайна апрацоўваецца плоская дэталь з драўніны дакладна на зададзеную таўшчыню.



-1298-

## ПСІХАЛАГІЧНЫ ЛІКБЕЗ

### Вы шукаеце работу

**У спіс беспрацоўных часцей трапляюць жанчыны. Яны, нашы прыгожыя, разумныя і працавітыя, сёння ўжо не ўпэўнены, што іх працоўныя імкненні патрэбны і будуць ацэнены па заслугах. Таму парада тым, хто шукае работу.**

Вы павінны зрабіць добрае ўражанне на свайго будучага начальніка. Вельмі важна, як вы да гэтага падрыхтуецеся, бо ад гэтага залежыць, будзе вынік станоўчым або вы «праваліцеся». Аўтабіяграфію кожны раз трэба мадыфікаваць, падкрэсліваючы ў ёй тыя моманты, якія для дадзенай фірмы могуць мець асаблівае значэнне.

Няма добрай аўтабіяграфіі на кожны выпадак. Не давайце сабе ўнушыць, што беспрацоўныя — гэта людзі без кваліфікацыі. І нягледзячы на тое, што вы беспрацоўная, вы вельмі добрая работніца. Таму што беспрацоўе — гэта вынік эканамічны, а не вашых недахопаў. Не будзьце пакорлівай, ціхмянай, вельмі самаўпэўненай, гэтак жа як і нахабнай, надакучлівай. Старайцеся выклікаць сімпатыю, але не падлізвайцеся, не ўпадайце ў фамільярнасць. Трымайце сябе спакойна, ураўнаважана, майце пачуццё ўласнай годнасці. Вашы пошукі работы могуць быць карыснымі ў дадзеным месцы для абодвух бакоў.

Вы не з'яўляецеся беднай прасіцелькай. Вы — падарунак, які хочаце падарыць свайму новаму работадаўцу.

Збярыце як мага больш інфармацыі пра новую фірму, у якой збіраецеся працаваць.

Памятайце!

Вы зацікаўлены гэтай чакаемай работай, а не толькі перспектывай штомесячна атрымліваць зарплату.

Падрыхтуйце адказы на стандартныя пытанні:

чаму вы шукаеце гэтую работу?

Якія былі апошнія заробткі (не раім фантазіраваць)?

Чаму лічыце сябе добрым кандыдатам?

Сямейнае становішча? Асабістыя і прафесіянальныя планы?

Як у вас складваюцца адносіны з людзьмі?

Не гаварыце ні аб кім дрэнна, а асабліва аб папярэднім начальніку.

Напішыце аб магчымай плыні размовы. Чаму, па-вашаму, вы выбраны сярод іншых кандыдатаў?

## РАПТАМ СПАТРЭБІЦЦА

### Выбіраем кавун

Калі вы не ведаеце, як выбраць кавун, скарыстайце такую параду: у спелага кавуна пладаножка засохлая, лупіна бліскучая і пругкая, з ясным малюнкам, а на баку, дзе кавун дакранаўся да зямлі, можа быць жоўтая пляма.

-1299-

## АСАБІСТАЕ ЖЫЦЦЁ

**Аб. 207.** 40/156/57, Стралец, сімпатычная, жыллём забяспечана. Замужам не была, люблю займацца хатнімі справамі. Адукацыя сярэдне-тэхнічная.

**Аб. 208.** Свабодны, энергічны ўдавец, 55/170 (дзеці жывуць асобна), без шкодных звычак і праблем, створыць сям'ю з жанчынай да 50 гадоў. Мінск-29, а/с 46.

## СЁННЯ

| МЕСЯЦ | ІМЯНІНЫ |
|---|---|
| Першая квадра 20 верасня | П. Нараджэнне прасвятой багародзіцы<br>К. Мацвея-апостала і евангеліста, Гіпаліта |

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца невялікая воблачнасць, без ападкаў. Тэмпература паветра ў Віцебску і Магілёве — 9—11, Мінску і Гомелі — 10—12, Гродне — 11—13, Брэсце — 12—14 градусаў.

У наступныя двое сутак малавоблачна, без ападкаў. Уначы на значнай частцы тэрыторыі рэспублікі замаразкі да 0—мінус 4; удзень — 10—15 градусаў цяпла.

## НОРАВЫ

# АДКРЫЦЦЁ ПАЛЯВАННЯ

СЯМЁН у свае сорак пяць гадоў быў чалавекам з усіх бакоў станоўчым. Досыць высокая пасада, дзвюх дачок, дзякаваць Богу, за прыстойных людзей выдаў. Ну, зразумела, машына ды дача. Нават у дэпутаты вылучалі. Толькі неяк пачаў заўважаць за сабой чалавек: нечага не хапае. Нешта грызе душу, не балюча, але ўкусліва. Усё ў парадку, але вось кропелькі і не хапае. А можа залішне?

А тут сустрэў школьнага сябра. Разгаварыліся. І пажаліўся Сямён на свае нудоты. Паглядзеў той на яго ўважліва. «Добра, — кажа, — дапамагу. Заўтра ў дванаццаць едзем на адкрыццё палявання. Без пярэчанняў. Дапаможа. Будзе з намі адзін адказны таварыш, але нічога, гэта ў мяне дырэктар рыбгаса знаёмы».

— Еду на паляванне! — заявіў Сямён з парога.

Жонка спачатку не зразумела:

— Якое паляванне?

— Ну, там, на качак, ці як іх...

— Ах, паляванне... Дык цябе ж на дачу выцягнуць цяжка.

— Еду!

Зборы былі досыць пакутлівымі з-за адсутнасці вопыту. Урэшце ўцеплены, як вокны нашых кватэр перад зімою, Сямён сабраўся пакідаць кватэру.

— Ну а ружжо? — з'едліва спытала жонка.

— Сказалі, там дадуць.

— На! — Яна працягнула яму валізку. — Тут харч і бутэлька каньяку. Я чула, што на паляванне без бутэлькі не едуць.

Увогуле, Сямён у справе гэтай быў стрыманы, і найперш, як кажуць, з-за ранішніх наступстваў.

Сябар ужо чакаў ля «Жыгулёў». Укладваючы ў багажнік сваю валізку, Сямён убачыў скрынку «Белай Русі». Нашто столькі, падумалася. Але, як навічок, вырашыў кіравацца прынятым раніцой рашэннем: нічому не здзіўляцца, рабіць усё так, як і іншыя.

У машыне іх было чацвёра. Ззаду Сямён з сябрам, наперадзе вадзіцель і мажны чалавек. Па тым, як ён аддаваў распараджэнні, хутка стала зразумела: гэта сапраўды нейкі начальнік і яго вадзіцель, толькі пераселі яны ў гэтыя досыць абшарпаныя «жыгулі» са службовай машыны дзеля маскіроўкі ці па нейкай іншай прычыне.

Адразу за горадам начальнік даў каманду прыпыніцца.

— Ну, за знаёмства і ўдалую дарогу. Давай, Валодзя, тую, з халадзільніка.

Вадзіцель дастаў бутэльку гарэлкі, бутэрброды. Сямён, не паказваючы свайго здзіўлення, — сярод бела дня, у машыне! — выпіў сапраўды яшчэ халоднай усё той жа «Белай Русі».

Дзве гадзіны «жыгуль» імчаў па асфальтаванай стужцы, потым нейкі час пыліў па прасёлку. Пад'ехалі ў невялікай вёсцы да нейкай канторы. Сябар, прыхапіўшы некалькі бутэлек гарэлкі, схадзіў, як ён сказаў, «адзначыцца». Вярнуўся вясёлы:

— Усё ў парадку, наша месца свабоднае.

Яшчэ хвілін дваццаць ехалі па прасёлку, дамбах, вакол якіх шырока раскінуліся відавочна рукатворныя сажалкі. А потым дарога і ўвогуле скончылася. Калёсы машыны прыміналі высокую траву.

Спыніліся на заціішнай палянцы. Кругом хмызняк, з аднаго боку паляны бачылася вада сажалкі. Неўзабаве на палянцы пылала вогнішча, вадзіцель Валодзя спрытна ставіў палатку.

— За прыезд і ўдалую рыбалку, — уладна скамандаваў Начальнік (хоць яго і звалі Іванам Пятровічам, Сямён пра сябе інакш пра яго не думаў).

Прыселі за накрыты ўсё тым жа ўвішным Валодзем абрус.

Пакуль выпівалі, начальнік ашчаслівіў палянку гучным маналогам аб тым, што зрэдзь часу трэба абавязкова пакідаць цывілізацыю камяніц і акунацца ў прыроду, дзе найменей выгод, але душа адрываецца ад усялякіх клопатаў і начальніцкіх згрызот. «У гарэлку вы акунаецеся, а не ў прыроду», — падумалася Сямёну. Ён па-ранейшаму моўчкі ўспрымаў усе нечаканасці і незразумеласці гэтага ваяжу. Ды і п'янець з непрывычкі пачынаў усё больш.

— Ну а цяпер — лавіць рыбу, — паступіла новая каманда.

Аказалася, што рыбу будуць лавіць тут жа, на беразе сажалкі ля паляны. Далі ў рукі вуду і Сямёну, але, не трымаўшы яе з дзяцінства, ён вельмі хутка так заблытаў лёску, што і Валодзя махнуў рукою. Ды і не гэтым была занята ўвага Сямёна. Ён утаропіўшыся глядзеў на сваіх таварышаў па новаму занятку. А яны, сеўшы на бераг сажалкі, толькі паспявалі закідваць вуды. На бераг разпораз выкідваліся буйныя серабрыстыя карпы.

— На што ж вы ловіце, што так клюе?

— А тут на што ні лаві — толькі паспявай закідваць...

Вялізны садок рыбы быў пакінуты ў сажалцы, частку Валодзя ўжо паплатаў на юшку.

Селі за яе ў прыцемках. І тут заўважыў Сямён, што то ў адным, то ў другім месцы вакол іх свецяцца такія ж невялікія вогнішчы.

— Мы тут не адны?

— Адны... На адкрыцці палявання? Тут, братка, цяпер народу болей, чым на якім актыве. — Сябар нібы выхваляўся сваёй дасведчанасцю: — Вунь там абласныя чыны, там міліцэйскае начальства. А там ці не сам міністр разгарнуўся. У кожнага свой аблюбаваны куток. Які з іх, можа, і ружжо развучыўся ў руках трымаць, але адкрыццё палявання — святая справа.

Сямён першы адпоўз ад вогнішча ў палатку: як ні стараўся не адставаць ад застоліцы — не змог. «Адсутнасць практыкі», — мармытаў ён сам сабе, засынаючы.

Разбудзіла яго кананада. У палатку па кроплі сцякала ранішняя шэрань. А грымела з усіх бакоў. Стрэлы гучалі то зусім блізка ля палаткі, то воддаль, але з усіх бакоў. Сямёну здавалася, што шрот пралятаў прама над ім. Ён было падняўся на ногі, каб выйсці, але пасля некалькіх зусім блізкіх стрэлаў прыпаў да зямлі.

У палатку таксама паўзком пранік Валодзя.

— Ну як вам музыка?

— А не пастраляюцца яны? Немаведама куды паляць.

— Бывае... Давайце лепш, пакуль майго начальніка няма, паправім галовы...

Кананада аціхла толькі апоўдні. Вярнуўся Сямёнаў сябар з Начальнікам, абвешаныя абкрываўленымі, невялікімі на выгляд і вартымі жалю птушкамі.

Яны былі ўзмакрэлыя, узбуджаныя, горача абмяркоўвалі толькі што перажытае. Тут ужо не да субардынацыі.

— Ты, мазіла, чаму не зрэзаў тых двух, што пад носам узняліся?

— Перазараджаў. А ты ніколі не лезь наперад, калі не бачыш.

Тым часам Валодзя зноў спрытна займаўся гаспадарчай справай. Неўзабаве зноў елі юшку, у якой разам з рыбай варылася некалькі качак. Сямён хмялеў ад нязвычнага паху дзічыны, ад дымка вогнішча, што віўся каля іх.

Бліжэй да вечара зноў усчалася з усіх бакоў страляніна, не такая густая, як раніцой, але такая ж бязладная.

— Ну, гэта па бутэльках, боезапас расстрэльваецца, — зазначыў Валодзя.

Сямён не паддаўся на ўгаворы хоць раз стрэліць па пустой бутэльцы, «адзначыцца» на адкрыцці палявання. І ўвогуле ўсё далейшае ён помніў цьмяна. Зборы, «аглабельную» чарку, роўны гул рухавіка машыны.

Заводзілі яго ў кватэру сябар і Валодзя. Валодзя, адной рукой падтрымліваючы «неафіта», другой нёс Сямёнаву валізку з забытаю бутэлькай каньяку.

Але назаўтра Сямёну дзіўна было не гэта. Дзіўна было тое, што знікла нудота.

**Алесь КАСЦЕНЬ.**

## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

### КРЫЖАВАНКА-ПЕРАКЛАД

Перакладзіце з беларускай на рускую наступныя словы.

**Па гарызанталях:** 1. Сякучая. 5. Латак. 8. Крумкач. 9. Асмальванне. 10. Раскочванне. 11. Шкло. 12. Лазня. 13. Аброць. 17. Долата. 19. Прагінанне. 22. Пакой. 23. Падстава. 24. Рызман. 25. Авечнік.

**Па вертыкалях**: 1. Поўнач. 2. Газа. 3. Шчэнная. 4. Явар. 5. Скібка. 6. Праталіна. 7. Хараство. 12. Свавольнік. 14. Змова. 15. Начынне, посуд. 16. Балбатун. 18. Лямпа. 20. Цэбар. 21. Шарош.

**Склаў Віктар СУХАРАЎ.**

*г. п. Бялынічы.*



### ГАЛАВАЛОМКА

Уважліва разглядзіце літары ў сярэдзіне круга і падбярыце ключык да галаваломкі. Потым у пустыя клеткі па акружнасці ўпішыце літары — кожную на сваё месца. Прачытайце ў выніку словы вядомай прымаўкі.

**Даслаў Мікола ВОРЧЫК.**

*Лагойскі раён.*






### КРЫПТАГРАМА

Карыстаючыся ключавымі словамі, прачытайце ў клетках па акружнасці малюнка старажытную беларускую прымаўку.

а) 1-2-3-4-5-6 — ластаногая марская жывёліна, б) 7-8-3-9-10 — вялікі, яркі метэор, в) 11-12-13-14-5-15-8 — праснаводная рыба сямейства ласасёвых.

**Склаў Мікола ВОРЧЫК.**

*Лагойскі раён.*

### ПРАВЕРЦЕ, КАЛІ ЛАСКА, АДКАЗЫ

**Крыжаванка (14 верасня). Па гарызанталях:** 2. Кулік. 4. Балістыка. 6. Цялуша. 7. Майкоп. 10. Рахманінаў. 11. Кувейт. 14. Агент. 15. Карыфей. 16. Віёла. 19. Лівень. 20. Дэмаркацыя. 22. Чартэр. 23. Арарат. 25. Дамінанта. 26. Сопка. **Па вертыкалях:** 1. Алеся. 2. Калашнікаў. 3. Крычаў. 4. «Балкан». 5. Арктур. 6. Ціхановіч. 8. Плебісцыт. 9. Парытэт. 10. Рэгул. 12. Талія. 13. «Серабранка». 17. Снарад. 18. Скарга. 21. Тэрмас. 24. Анапа.

Згубленае пасведчанне інваліда № 044442 серыі 07 выдадзенае на імя **Васіля Яўгенавіча Корзуна**, лічыць **несапраўдным.**



## Post Factum

### Гэты дзень у гісторыі

**21 верасня 1452 года** нарадзіўся Джыралама Саванарола, настаяцель манастыра дамініканцаў у Фларэнцыі. Выступаў супраць тыраніі Медычы, выкрываў папства, заклікаў царкву да аскетызму. Пасля выгнання Медычы з Фларэнцыі ў 1494 годзе спрыяў усталяванню рэспубліканскага ладу. У 1497 годзе адлучаны ад царквы і па прыгавору прыярату пакараны.

**21 верасня 1744 года** нарадзіўся Джакома Кварэнгі, рускі архітэктар, прадстаўнік класіцызму. Па нацыянальнасці італьянец, у Расіі працаваў з 1780 года. Манументальнасцю і строгасцю формаў, пластычнай закончанасцю вобразаў вызначаюцца Аляксандраўскі палац у Царскім Сяле, Эрмітажны тэатр, Смольны інстытут у Пецярбургу.

У гэты дзень **у 1866** годзе нарадзіўся Герберт Джордж Уэлс, англійскі пісьменнік, класік навукова-фантастычнай літаратуры, аўтар такіх твораў, як «Машына часу», «Чалавек-невідзімка», «Вайна светаў», а таксама бытавых раманаў — «Кіпс», «Тона-Бенге» і інш.

**21 верасня 1911 года** нарадзіўся Марк Бернес, савецкі акцёр, папулярны эстрадны спявак. Здымаўся ў фільмах «Два байцы», «Знішчальнікі» і інш.

У гэты дзень **у 1918 годзе** нарадзіўся вядомы беларускі мовазнавец і пісьменнік Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі, даследчык беларускай народнай і літаратурнай мовы і яе гісторыі. Складальнік зборнікаў крылатых выразаў і афарызмаў, прыказак і прымавак, параўнанняў, слоўнікаў, аўтар мастацка-публіцыстычных зборнікаў «Абразкі», «Прыпыніся і паслухай», «Само слова гаворыць».

У гэты дзень у **1923 годзе** нарадзіўся вядомы беларускі фізік, акадэмік АН Беларусі Мікалай Барысевіч, у 1969—1987 гг. — прэзідэнт беларускай Акадэміі навук, Герой Сацыялістычнай Працы, лаўрэат Ленінскай і Дзяржаўнай прэмій СССР.

### Народны каляндар

**21 верасня** — *Раство Маці Божай (малая Прачыстая)*. Адно з галоўных хрысціянскіх святаў, устаноўленых у гонар нараджэння Божай Маці. Два праведнікі — муж і жонка Іякім і Ганна — не мелі дзяцей і малілі Бога паслаць ім дзіця. Іх малітва была пачута — Бог паслаў старым бацькам дачку Марыю, якая ў будучым стала Маці Ісуса Хрыста.

Вялікая і малая Прачыстая, а таксама Пакроў, які будзе адзначацца неўзабаве, утвараюць агульны цыкл багародзіцкіх святаў (святкоў) і адпаведна называліся: першы святок, другі святок і трэці. З малой Прачыстай аб'яўлялі наступную пару года: *«Другі святок — восень, браток»*.

З далёкіх часоў беларускі народ адзначае ў гэты дзень старадаўняе земляробчае свята — багач (багатнік, багатуха). Яно заўсёды спраўляецца пасля заканчэння жніва. Заканчвалася ворыва зябліва, сеялі азімае: *«Прыйшоў багач — кідай рагач, бяры сявеньку, сей памаленьку»*. Ад цяжкіх работ пад восень сяляне добра стамляліся, асабліва жанчыны: *«Да багача баба рабачá, па багачы — хоць за плот валачы»*.

Сяляне назіралі за жывёлай, каб рабіць прагнозы на зіму: калі пасля малой Прачыстай жывёла імкнецца на пашу вельмі рана, то і зіма будзе ранняя.

### Цікава

Аб балбатлівасці жанчын ходзяць легенды. Тым не менш, самым гаваркім чалавекам на зямлі аказаўся мужчына.

27-гадовы рыбак з маленькага ірландскага гарадка Роэслер выйграў першы прыз на спаборніцтвах балбатуноў, прагаварыўшы запар 50 гадзін. Відавочцы сцвярджаюць, што асноўнай тэмай маналогу маладога чалавека былі ўзаемаадносіны з цешчай.

А вось самай балбатлівай птушкай прызнана самка шэрага афрыканскага папугая па мянушчы Прадль. На працягу 12 гадоў яна нязменна займала першыя месцы ў конкурсах размаўляючых птушак у Лондане. Лексікон гэтай птушкі — 800 слоў.

Дарэчы, амерыканскі вучоны Джэймс Пенбекер сцвярджае, што маўклівыя людзі хварэюць часцей, чым гаваркія. Калі не выліваць свае пачуцці ў словах, выпрацоўваецца гармон, які зніжае супраціўляльнасць арганізма. Гэта асабліва характэрна для мужчын, бо ў многіх з іх язык з цяжкасцю выказвае пачуцці.

### Дзесьці на белым свеце

***Калі вам узбрыдзе ў галаву абрабаваць чыю-небудзь кватэру, пацікаўцеся папярэдне, ці не ўстаноўлены ў ёй дзверы егіпецкага вынаходніка Макрама Хамуды.***

Гэта вельмі хітрыя і агрэсіўныя дзверы. Яны не проста супраціўляюцца ўзломшчыку сваёй металічнай стойкасцю, яны актыўна абараняюцца. З дапамогай прыстасавання, падобнага на капкан, дзверы мёртва хапаюць руку зламысніка і адначасова выпускаюць у яго твар струмень усыпляльнага газу. І тут жа сігналізуюць у паліцыю: прыязджайце, злавілі злодзея. Дзверы Хамуды прыгодныя як для жылых памяшканняў, так і для офісаў, іх канструкцыя адобрана Акадэміяй навуковых даследаванняў Егіпта.

### Анталогія рэкорду

Аднойчы амерыканка Кэці Уэйфлер узяла вялікі яблык (вагой 567 г) і стала акуратна зразаць з яго скурку. Гэтым яна займалася на працягу адзінаццаці з паловай гадзін, і ёй удалося зрэзаць неразрыўную скурку даўжынёй 52 м 51 см. У выніку яна трапіла ў Кнігу рэкордаў Гінеса.

### З жыцця вядомых

Вядомы фельетаніст «Праўды» Рыклін расказваў:

— У пачатку 30-х гадоў адбылася сустрэча журналістаў са Сталіным і іншымі кіраўнікамі партыі і дзяржавы. У канцы яе мы сфатаграфаваліся. На фота я стаяў побач з правадыром. Ішлі гады, і ішлі арышты. Захоўваць ворагаў народа было небяспечна. І я пачаў рэзаць: правадыры і журналісты паступова зніклі з фота. У рэшце рэшт засталіся толькі я і Сталін. Пасля XX з'езда я адрэзаў Сталіна і застаўся адзін.

### А яшчэ быў выпадак

*Прыйшоў аднойчы да прэзідэнта савецкай Акадэміі навук Вавілава адзін акадэмік і кажа:*

*— Прапаноўваю выдаваць цікавы часопіс, падобнага нават у Амерыцы няма.*

*— Вы дакладна ведаеце, што ў іх няма? — спытаў Вавілаў.*

*— Дакладна.*

*— Значыць, і нам не трэба.*

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Першы намеснік галоўнага рэдактара М. МІХАЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400, Маскве — 365-16-44; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 91852. Індэкс 63850.
Зак. № 6233.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12